№ 71 (3812)
10 верасня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Бабье лето откладывается

Хотя солнечная погода и сохранится, но классическую картину бабьего лета портит порывистый северный ветер, пояснила главный синоптик Республиканского гидрометеоцентра **Людмила Паращук.**

Во вторник и среду прогнозируется переменная облачность, дожди маловероятны. Ночью +9...+11°C, днем +16...+18°C. В четверг возможен кратковременный дождь. Ночью +9...+11°C, днем +17...+19°C.

— Возможно, бабье лето придет во второй половине сентября или в начале октября, — отмечает синоптик. — Были годы, когда его и вовсе не наблюдалось. А в 1975 году бабье лето пришло 8 сентября и продержалось до 15 октября.

# Плата за шопінг: ці магчымы беларускі варыянт?

**СКАЗАНА!**

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*
### *«Мы цябе на мяжы абслугоўваем — 100 долараў з носа плаці і едзь...»*

*— Нас крытыкуюць — бедная, жабрацкая краіна. А нашы людзі да трох мільярдаў долараў у год вывозяць за мяжу ў Еўрасаюз і прывозяць адтуль тавары, якія мы таксама выпускаем... Дык вось... Я даўно даручыў: аж да таго, што выязджаеш за мяжу, не важна за чым, — заплаці выязную пошліну. Гэта будзе так: мы цябе на мяжы абслугоўваем — 100 долараў з носа плаці і едзь за мяжу. Тады ён прыйдзе ў нашу краму і купіць наш халадзільнік, а не будзе цягнуць з Еўрасаюза барахло невядома якой вытворчасці. А яны там будуць сядзець і паціраць рукі — 3 мільярды прывезлі ім грошай. У іх развіваецца гандаль, вытворчасць, а мы тут боўтаемся".*

***

***Гэтае выказванне Аляксандра Лукашэнкі і абурыла, і насцярожыла. Прэзідэнт, на якім нават шалік фірмы "PUMA", разважае пра тое, што беларусаў трэба прымусіць купляць беларускае. Менавіта прымусіць, бо забітыя склады айчынных прадпрыемстваў сведчаць, што нікому іншаму, прабачце, многае з нашага барахла не патрэбнае.***

***Гэта з аднаго боку. А з іншага — 100 долараў з носа пры выездзе — гэта вельмі высокі падатак. Іншымі словамі, грошай настолькі няма, што дзяржава гатова браць іх проста ні за што.***

***Магчыма, Аляксандр Лукашэнка хацеў бы, каб, нават прачынаючыся, мы плацілі падатак проста за расплюшчаныя вочы. Але мы ж не на востраве жывём, а ўсё-такі ў адзінай мытнай прасторы з Расіяй і Казахстанам, дзе правілы аднолькавыя для ўсіх краін. Дык ці можа беларускі кіраўнік сваім рашэннем памяняць гэтыя правілы?***



*Віктар ШАДУРСКІ, дэкан факультэта міжнародных адносін БДУ, прафесар, доктар гістарычных навук:*
### *«...Каб павышалася зарплата і менш было выдаткаў»*

— Я яшчэ не вывучыў канкрэтную інфармацыю, але ў любым выпадку стаўлюся адмоўна да такіх дадатковых трат за перасячэнне мяжы. На мой погляд, яны лішнія. Хацеў бы, каб павышалася зарплата і менш было выдаткаў.

*Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ, кіраўнік Руху «За свабоду»:*
### *«Гэта непавага да элементарных правоў чалавека»*

— Па-першае, гэта працяг ненадзейнай палітыкі самаізаляцыі. Хаця ў век глабалізацыі гэта бессэнсоўна. А па-другое, гэта непавага да элементарных правоў чалавека, бо чалавек мае права выехаць свабодна. І таксама бездапаможнасць у рэформах, якія так неабходны Беларусі.

Проста трэба даўно рабіць вялікую інвентарызацыю гаспадаркі, трэба рабіць структурныя рэформы. І гэта ўсе добра ведаюць, нават простыя людзі. А ўлада спрабуе абмежаваннямі ўратаваць старую сістэму. Шкада, што так, бо губляем час.

*Тамара ТРУБЧЫК, намеснік старшыні камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінскага аблвыканкама:*
### *«Я не буду гэта камен-таваць...»*

— А пры чым тут я да гэтай пошліны? Выбачайце, я не буду гэта каментаваць...

*Сяргей БАЛЫКІН, юрыст, член аргкамітэта ГА «Рэгіянальны шлях»:*
### *«Усе дыктатарскія рэжымы зачыняліся ад знешняга свету»*

— Прапанова Лукашэнкі выклікае вельмі вялікія сумневы як з юрыдычнага, так і з прававога, арганізацыйнага пункту гледжання. Я не буду закранаць правамернасць увядзення падобных пабораў, спынюся на відавочных праблемах. Якім чынам на мяжы будуць фільтраваць тых, хто едзе ў якасці турыста, хто — па культурным абмене, а хто — на закупы? Калі мэту паездкі прыйдзецца засведчыць у паперах, усе будуць пісаць — "турызм". І нічога не зробіш, калі падчас турыстычнай паездкі ў грамадзяніна ўзнікла спантаннае жаданне купіць тую ці іншую рэч.

Ці можна ўвесці такую прымусовую даніну для ўсіх грамадзян, якія перасякаюць мяжу? Тэарэтычна — можа, нават не выкліча асаблівага абурэння ў беларусаў, прыцерпімся. Усе дыктатарскія рэжымы зачыняліся ад знешняга свету, уводзячы аграмадныя пошліны на выезд ці іншыя меры. У Іраку, напрыклад, пашпарт каштаваў сто долараў пры заробку ў 5 долараў. У Савецкім Саюзе атрыманне замежнага пашпарта таксама прыраўноўвалася да цуду. Калі Лукашэнка хоча прадэманстраваць свету наша дзікунства, то чыста тэарэтычна гэтую прымусовую даніну можна ўвесці. Але беларусы проста пераарыентуецца на Расію, будуць ездзіць на закупы ў Маскву.

Карацей, гэтая ініцыятыва не мае ніякага эканамічнага сэнсу, бо не падштурхне народ да куплі тавараў беларускай вытворчасці. Проста вытворцам трэба папрацаваць над якасцю прадукцыі і задумацца аб зніжэнні яе сабекошту. На маю думку, гэта імпульсіўная і не вельмі разумная прапанова.

*Леў МАРГОЛІН, эканаміст, намеснік старшыні АГП:*
### *«Грошы трэба шукаць, але не такім чынам»*

— Гэта чарговая ініцыятыва, якая, на шчасце, застанецца без усялякіх наступстваў. Казаць нешта сэнсоўнае на гэты конт немагчыма. Бо, па-першае, ёсць Расія. Як мы будзем браць грошы ў людзей, якія едуць у Расію на працу ці па тавары, калі мяжы з ёю няма? Па-другое, у нас ужо ёсць досвед апазіцыянераў, як можна ездзіць на Захад, калі на Захад не пускаюць. Можна таксама гэта рабіць праз тую ж Расію. Ды і шмат яшчэ чаго, што робіць гэтую ініцыятыву абсалютна бессэнсоўнай. Такія заявы Лукашэнка робіць з простай прычыны: у атамана пад пытаннем залаты запас. Канчаецца яго казна, і трэба недзе шукаць грошы. Як гэта рабілася ў Савецкім Саюзе? Абрабавалі сялян — і з'явіліся грошы для індустрыялізацыі. Так і тут: калі няма дзе пазычыць і няма ахвоты прадаваць маёмасць, то трэба ўзяць грошы ў людзей. Вось і ўсё.

*Канстанцін ГАЛАМІДАЎ, начальнік ідэалагічнага аддзела Дзяржаўнага мытнага камітэта:*

— Дадзеныя пытанні ў Дзяржаўным мытным камітэце не разглядаліся. Я, вядома, не Настрадамус, але, верагодна, і не будуць разглядацца. Ёсць нарматыўныя прававыя акты, якія рэгулююць парадак перасячэння мяжы, ёсць вызначаныя нормы — вагавыя, цэнавыя, ёсць абмежаванні, забароны —што нельга перавозіць. Гэта канкрэтна, дакладна прапісана ў нарматыўных актах. Вось гэтыя пытанні — калі ласка, мы можам каментаваць, мы можам абмяркоўваць. Пра ўсё астатняе — што ж мы можам сказаць? Такой інфармацыяй я не валодаю.

**ДАРЭЧЫ**

Самае цікавае, што практыка браць падатак з тых, хто выязджае з краіны, дзе-нідзе існуе. Так, у Коста-Рыцы за выезд за мяжу ў аэрапорце бяруць 30 долараў з кожнага чалавека, у Турцыі — 15 лір.



**РЭПЛІКА**

## Тым з большай павагай...

У кнізе С.Навумчыка "Дзевяноста першы" ("Бібліятэка Свабоды", 2013) дапушчана прыкрая недакладнасць, а менавіта: галаслоўна, без спасылак на дакумент, сцвярджаецца, што Ніл Гілевіч быў у ліку тых 18 членаў Прэзідыума ВС РБ, якія 19—21 жніўня 1991-га падтрымалі сумна вядомы ГКЧП з яго спробай ажыццявіць у СССР антыдзяржаўны пераварот. Дык вось мушу заявіць, што ў тыя дні, калі ў ВС РБ адны дэпутаты выступілі рашуча супраць ГКЧП, а другія (большыня) падтрымалі яго, я знаходзіўся за 1500 кіламетраў ад Мінска (быў у пісьменніцкім Доме творчасці "Кактэбель"), вярнуўся дадому ў самым канцы жніўня і, толькі вярнуўшыся, даведаўся, якія тут у нас, у ВС РБ, адбываліся падзеі.

С.Навумчык піша: "Мы, дэпутаты Апазіцыі БНФ, пасля правалу путчу прапанавалі Вярхоўнаму Савету "асудзіць бяздзейнасць і безадказнасць у справе абароны Канстытуцыі і суверэнітэту Беларускай ССР членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета..." (*ідзе пералік прозвішчаў — і маё ў тым ліку.* — **Н.Г.**). І так, мне інкрымінуецца ганебны ўчынак, і таму: асудзіць Ніла Гілевіча "за безадказнасць у справе абароны суверэнітэту БССР", за абыякавасць да лёсу сваёй краіны, свайго народа. Здорава! Чытайце, грамадзяне Беларусі, і ведайце, хто чаго варты!..

Ёсць у кнізе і іншыя моманты, якія датычаць Н.Г. і выяўляюць непаважлівыя адносіны да ісціны. Напрыклад, паўтараецца (са смакам!) брудная інсінуацыя злоснікаў-зайздроснікаў наконт таго, чаму ў пачатку 1990-х не быў прыняты Гімн РБ. Або — наконт майго даклада на вераснёўскай сесіі ВС пра нацыянальную сімволіку.



Разумею: пісаць найноўшую гісторыю вельмі цяжка. Яшчэ кіпяць палітычныя жарсці, працягваецца супрацьстаянне антаганістычных сіл, пад пагрозай — лёс нашай незалежнасці, нашай будучыні. Тым з большай павагай неабходна ставіцца да рэалій і фактаў нядаўняга мінулага, каб было на што абаперціся — у імя беларускай Беларусі — сёння і заўтра.

**Ніл ГІЛЕВІЧ.**

*9.9.2013 г.*

**КАДРОВАЯ ПОЛИТИКА**

### «Если директор моторного завода по специальности слесарь, значит, пойдет работать слесарем или бригадиром слесарей»

"Если на 1 января вы не выйдете на то, что подтверждаете (*имеется в виду разгрузка складов.* — **Ред.**), то ни Семашко (*первый вице-премьер.* — **Ред.**), ни директоров на этих должностях не будет. Еще оценку дадим премьер-министру, может быть, он вместе с вами в обнимку уйдет. Вы на меня не обижайтесь, это кадровая политика. У меня выхода другого нет. Если директор моторного завода по специальности слесарь, значит, пойдет работать слесарем или бригадиром слесарей. Если Семашко конструктор, значит пойдет работать конструктором, — *сказал А.Лукашенко в адрес всех руководителей во время посещения минского мотовелозавода. И добавил:* — Теплых мест и коммерческих структур для вас не будет. Потому что эта коммерческая структура будет уничтожена мгновенно, если возьмет человека из кадрового реестра без моего ведома. Или вы работаете и даете результат, или уходите туда, где сможете работать. Мы это отследим".

**ЗАКУЛИСЬЕ**

## Куда податься бывшему чиновнику?

А.Лукашенко уже не в первый раз заводит речь о коммерческих организациях, в которых устроились бывшие высокопоставленные чиновники. Так, в марте этого года глава государства просил председателя КГБ **Валерия Вакульчика,** госсекретаря Совета безопасности **Леонида Мальцева** и главу Комитета госконтроля **Александра Якобсона** проверить, где работают уволенные чиновники.

*"Посмотрите, куда устроены те, которые ушли или были уволены*, — говорил тогда Лукашенко. — *И не приведи Бог мы найдем, что где-то, на каком-то уровне уволенный чиновник сел в теплое кресло, — мало не покажется!"*

Сколько можно говорить об одном и том же, делать громкие заявления на публику? Какой в этом смысл? И соответствуют ли такие речи Конституции, согласно которой каждый имеет право на труд? В том числе и бывшие чиновники...

Среди оппозиционеров есть те, кто имеет так называемую "черную метку" — например, экс-глава торгового дома "БелБабаевское", бывший депутат Палаты представителей **Сергей Скребец**. К какому бы работодателю он ни обращался, ответ везде примерно одинаковый: извините, для вас вакансий нет. И отдельные бывшие официальные лица рангом повыше тоже прилагают немало усилий для самостоятельного трудоустройства. И не у всех получается. А некоторым действительно везет...

**SOS!**

### *Нищета*

*По данным Министерства статистики и анализа Беларуси, в первом полугодии текущего года 4,4% белорусских семей имели доход на одного человека не более 1 миллиона белорусских рублей. Еще для 11,5% семей подушевой доход составил менее 1,5 миллиона.*

Напомним, что средний бюджет прожиточного минимума составляет 1,026 миллиона белорусских рублей, причем на такие деньги можно прожить чисто теоретически. Однако 4,4% семей живет на доходы ниже этого уровня, и 11,5% — лишь немногим выше. То есть около 16% белорусских семей могут быть обозначены как нищие.

**ПОИМЕННО**

### *«Народная Воля» решила вспомнить, где работают бывшие высокопоставленные чиновники.*

**Вадим Зайцев**, экс-глава Комитета госбезопасности, в начале июня этого года был назначен генеральным директором СООО "Космос ТВ". Причем бизнес-образования у Зайцева нет. У него за плечами Московское высшее пограничное командное училище КГБ СССР, Академия Федеральной погранслужбы России и Военная академия Генштаба Вооруженных сил России. Можно предположить, что на назначение Зайцева в "Космос-ТВ" было дано добро сверху.

Впрочем, еще ни один генерал, возглавлявший КГБ, не остался без работы. Так, генерал **Леонид Ерин** — уже давно советник президента ОАО "Российские железные дороги". Справедливости ради стоит заметить, что первое образование у Леонида Тихоновича — профильное, он окончил Белорусский институт инженеров железнодорожного транспорта, а уж затем пошел в Краснознаменный институт КГБ СССР. Генерал **Владимир Мацкевич** — советник генерального директора ОАО "Совкомфлот". До недавних пор он больше времени проводил в Санкт-Петербурге, чем в Минске.

Экс-глава МВД **Владимир Наумов** практически сразу после отставки появился в группе советников генерального директора госкорпорации "Ростехнологии". Не исключено, что это как раз тот самый "запасной аэродром", который был подготовлен Наумовым еще в бытность министром.

Экс-помощник президента по экономическим вопросам **Сергей Ткачев** нашел пристанище на "Амкодоре". Он теперь первый заместитель генерального директора холдинга.

Чиновник с богатым стажем **Василий Долголев**, который был председателем Брестского облисполкома, Чрезвычайным и Полномочным Послом Беларуси в России, сейчас советник председателя правления ОАО "Белгазпромбанк".

Экс-министр **Виктор Голованов** — ректор частного учреждения образования "БИП-институт правоведения".

Экс-глава Администрации президента **Урал Латыпов** — член совета директоров ИООО "Лукойл-Белоруссия".

Экс-начальник Белорусской железной дороги **Виктор Рахманько** работает в Газпроме — руководит управлением транспорта департамента инвестиций и строительства.

Экс-гендиректор "Нафтана" **Константин Чесновицкий** — главный специалист в Ассоциации нефтепереработчиков и нефтехимии.

Экс-министр архитектуры и строительства **Александр Селезнев** — гендиректор ЗАО "Лект". Как написано на сайте, эта компания *"оказывает полный комплекс услуг по управлению инвестиционным проектом в строительстве на каждой из ступеней жизненного цикла проекта, начиная с прединвестиционной стадии и заканчивая строительством объекта "под ключ". Выполняет и отдельные функции заказчика, ведет технический надзор, осуществляет функции генерального подрядчика".*

Бывший председатель Гродненского облисполкома **Владимир Савченко** сейчас возглавляет агрокомбинат "Мачулищи".

**Марина КОКТЫШ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Аляксандр ФРАНЦКЕВІЧ:*

# «У мяне з'явілася ўпэўненасць у сваіх сілах»

Аляксандр Францкевіч, прыйшоўшы да праваабаронцаў цэнтра "Вясна" ў дзень вызвалення з Івацэвіцкай калоніі №22, найперш папрасіў паперу і канверты, каб напісаць лісты сябрам. Гэты занятак пастаянна перарываўся званкамі і візітамі журналістаў з віншаваннямі і роспытамі пра тры гады ў няволі палітвязня, асуджанага па "справе анархістаў".



**— Аляксандр, у інтэрв'ю, якія вы паспелі даць у першыя гадзіны пасля вызвалення, ні на што не скардзіцеся. Няўжо ўсё было так гладка?**

— Вядома, не ўсё так гладка. Я проста лічу, што тая атмасфера страху, якая ствараецца ў нашым грамадстве, — яе не трэба ўмацоўваць. Гэта значыць, з аднаго боку, вядома, трэба распавядаць пра рэпрэсіі ў дачыненні да людзей, якія знаходзяцца за кратамі, — і палітвязняў, і проста зняволеных. Але, з іншага боку, тым самым ствараецца татальная атмасфера страху ў нашым грамадстве... Я не хачу ўдзельнічаць у гэтым. Не хачу запалохваць людзей, каб яны затым думалі: а што ж будзе са мной, калі я траплю ў турму, — мяне там зламаюць... Магчыма, у некаторых людзей ёсць няўпэўненасць у сабе, і я не хацеў бы спрыяць таму, каб іх штосьці адпуджвала ад грамадзянскай актыўнасці. Я лічу, што калі ў чалавека ёсць перакананні і прынцыпы, то ён усё гэта вытрымае. Ва ўсякім выпадку я пагрозы свайму жыццю там не бачыў.

**— Гэта значыць мэтанакіраваныя спробы зламаць вас вы на сабе адчулі?**

— Так, вядома. І на сабе адчуў, і назіраў з боку. Калі ў дачыненні да мяне гэта тычылася нейкіх рашэнняў "зверху" (гэта не было звязана канкрэтна з маімі адносінамі з адміністрацыяй калоніі), то я бачыў такія ж прыклады ўздзеяння і на іншых людзей, звязаныя з іх канфліктамі з начальнікам калоніі, з намеснікам начальніка калоніі. Людзі проста займалі прынцыповую пазіцыю ў некаторых момантах, хтосьці нават пісаў скаргі, і за гэта іх даволі сур'ёзна прэсавалі.

**— І ўсё ж, што з таго, мінулага, было самым складаным?**

— Самым складаным для мяне была здрада маіх сяброў на самым пачатку, калі я цалкам разлічваў на іх прынцыповасць, а яны аказаліся не тымі, кім хацелі здавацца. Ну і, вядома, калі ўжо пачалася тэма памілавання -
-ізаляцыя ад іншых зняволеных, калі вакол мяне ствараліся такія ўмовы, таксама было цяжка. Але і на пачатку следства, і ў калоніі заставаліся людзі, з якімі я быў у сяброўстве, нягледзячы ні на што. Нягледзячы на ізаляцыю, на ўсе гэтыя спосабы ціску, былі людзі, якія заставаліся людзьмі, і я памятаю пра іх.

**— У няволі ў вас быў час пакапацца ў сабе. Знайшлі нешта раней не вядомае ў самім сабе?**

— Вядома. Гэта нават выявілася ў тым, што я пачаў пісаць. Я і раней спрабаваў, але ніяк не ўдавалася скончыць. А калі быў у лагеры, асабліва ў ПКТ (*памяшканне камернага тыпу.* — **Рэд.**), змог нешта напісаць, і гэта, як мне вядома, апублікавана. Хоць наўрад ці ў мяне ёсць літаратурны талент, я ўсё-такі тэхнар, праграміст. Але ў любым выпадку для мяне такі досвед быў цікавы. Я за гэты час прачытаў шмат літаратуры. Пашырыў гарызонты сваёй свядомасці, можна сказаць. І, вядома, у мяне з'явілася ўпэўненасць ва ўласных сілах. Я зразумеў, што нічога звышгераічнага не патрабуецца, каб супрацьстаяць гэтай сістэме, проста трэба сапраўды верыць у тое, што ты робіш.

**Паліна ВОЙКАВА.**

ДИПКУРЬЕР

## *Очень жаль расставаться*

*Чрезвычайный и Полномочный Посол Французской Республики в Республике Беларусь **Мишель Ренери** завершает свою дипломатическую миссию в нашей стране.*

По этому случаю состоялась встреча г-на Ренери с министром иностранных дел Республики Беларусь Владимиром Макеем. В ходе беседы министр поблагодарил посла Франции за его конструктивную позицию и значимый вклад в развитие белорусско-французских отношений.

Напомним, Мишель Ренери является автором книги "Чудотворные иконы Беларуси" на французском языке. Свои предисловия к этой книге написали Митрополит Минско-Могилевский архиепископ Тадеуш Кондрусевич и Митрополит Минский и Слуцкий Филарет. Во время своей работы в качестве посла Мишель Ренери не забывал и о судьбе белорусских политзаключенных.

ПРАТЭСТ

# Навошта Беларусі расійскі салдат?

Партыя БНФ пачынае кампанію пратэсту супраць размяшчэння ў Беларусі расійскіх ваенных баз.

Праўда, мясцовыя ўлады паўсюдна адмовілі актывістам партыі ў правядзенні пікетаў, а ўсяго было пададзена 20 заявак.

— Зразумела, што ўладам не падабаецца такая рэакцыя Партыі БНФ супраць размяшчэння ў Беларусі ракет, а хутчэй за ўсё гэта не падабаецца Крамлю, а беларускаму кіраўніцтву нічога не застаецца, як толькі выконваць яго волю. Адмовы ўлад у правядзенні пікетаў будуць абскарджвацца ў судах. Акрамя гэтага, будуць падавацца новыя заяўкі на правядзенне вулічных мерапрыемстваў супраць дыслакацыі ў нашай краіне расійскіх ваенных, — такая пазіцыя кіраўніцтва Партыі БНФ.

Актывіст Аб'яднанай грамадзянскай партыі з Магілёва Мікалай Гладышаў за аналагічны пратэст сваё ўжо адседзеў. Мікалай выйшаў з адзіночным пікетам да расійскага пасольства ў Мінску і адразу ж быў затрыманы.

Ён ведаў, на што ідзе: на акцыю прыйшоў з рэчамі. Навошта свядома ішоў пад арышт? Ці можа нешта даць такі адзіночны пратэст?

*"Я разлічваў прыцягнуць увагу нашых грамадзян да таго, што адбываецца парушэнне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь,* — гаворыць **Мікалай Гладышаў.** — *У артыкуле 18 гаворыцца: "Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а дзяржаву — нейтральнай". Размяшчэнне расійскай базы супярэчыць гэтай мэце. Дык што гэта, калі не парушэнне Канстытуцыі?.. Я выйшаў на акцыю, каб заявіць сваю пазіцыю".*

У мінулую нядзелю выйшаў выказаць сваю пазіцыю і яшчэ адзін магілёўскі актывіст Юрась Новікаў. Ён збіраў подпісы пад зваротам супраць размяшчэння расійскіх ваенных баз і таксама быў затрыманы.

Нагадаем, што да канца года расійская ваенная база павінна з'явіцца ў Лідзе. Там дыслакуюцца вайсковыя лётчыкі.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

### ТЫМ ЧАСАМ

Расійскія вайскоўцы з падраздзяленняў Заходняй ваеннай акругі рушылі ў Беларусь на сумеснае вучэнне "Захад-2013" з пунктаў пастаяннай дыслакацыі да месцаў правядзення вучэння.

Для перадыслакацыі расійскіх войскаў, якія ўдзельнічаюць у вучэнні, будзе задзейнічана 20 воінскіх эшалонаў. На тэрыторыю Беларусі адправіцца 2,5 тысячы расійскіх ваенных.

Вучэнні "Захад-2013" пройдуць з 20 па 26 верасня.

АТЫ-БАТЫ

## *У Беларусі ствараюць войскі кіберабароны*

*Як паведамляе сайт "Ваенна-палітычнага агляду", падчас сумесных беларуска-расійскіх стратэгічных вучэнняў "Захад-2013" плануецца прэзентаваць беларускія войскі кіберабароны, а таксама новыя комплексы "Іскандэр- М".*

Упершыню ў вучэннях "Захад-2013" будуць браць удзел сілы і сродкі кібернетычнай барацьбы Узброеных сіл. Міністэрства абароны Беларусі пакуль не раскрывае іх асабісты склад. Мяркуецца, што функцыі кіберабароны можа выконваць галоўны інфармацыйна-вылічальны цэнтр і цэнтр забеспячэння бяспекі інфармацыйных тэхналогій Узброеных сіл РБ.

У якасці крыніц кіберпагроз разглядаюцца "асобныя тэхналагічна развітыя дзяржавы" і "арганізацыі ананімных хакераў-тэрарыстаў".

ОФИЦИАЛЬНО

# Уголовный кодекс может претерпеть изменения

*Давно обещанные изменения в Уголовный кодекс, которыми должно было быть смягчено или даже отменено наказание по ряду статей, поступили в Палату представителей.*

*"Народная Воля" изучила этот документ.*

### Нововведения

В Беларуси предлагается ввести институт досудебного соглашения о сотрудничестве с подозреваемым (обвиняемым).

По-иному этот институт в юридической практике называется "соглашение о признании вины". Работу следователей он, конечно, облегчает. Человек, заключая такое соглашение со следствием, признает вину и всячески сотрудничает со следствием, давая показания в том числе на своих подельников. А взамен получает гарантию, что к нему не будет применен максимальный срок наказания и даже применение более мягких мер ответственности.

Раньше следователи обещали таким фигурантам, что "посодействуют" в суде о более мягком приговоре. Однако это были устные обещания, которые часто не выполнялись. Теперь смягчение приговора в таких случаях предлагается формализовать.

Юристы, однако, неоднозначно относятся к "досудебным соглашениям о сотрудничестве", потому что если дела коллективные, то достаточно одному человеку признать вину, и его признание будет считаться доказанным для всех остальных фигурантов дела. Например, если бы по событиям Площади-2010 кто-либо из арестованных пошел на досудебное соглашение о сотрудничестве и признал, что в тот день были массовые беспорядки, то во всех остальных судах массовые беспорядки уже фигурировали бы как факт, не требующий доказательств.

Кроме того, депутатам предлагается официально закрепить механизм уголовно-правовой компенсации. То есть денежную выплату, после которой человек освобождается от ответственности. Судя по косвенным сведениям, он и сегодня существует. По крайней мере, известно, что ряд крупных бизнесменов (Евгений Шигалов, Виктор Шевцов) после ареста вдруг были отпущены на свободу, как говорится, без последствий. По слухам, не за просто так, а за определенную сумму. Вот теперь предлагается такой механизм узаконить.

### Не является преступлением

Декриминализировать, то есть убрать из Уголовного кодекса, предлагается:

**— Статья 220 "Недобросовестная охрана имущества"**

"Данное преступление является неосторожным и относится к преступлениям, не представляющим большой общественной опасности, — говорится в пояснении, которое получили депутаты. — В этой связи нецелесообразно привлекать к уголовной ответственности лиц, совершивших подобные деяния, поскольку их общественная опасность незначительна. Достаточно привлечь виновное лицо к дисциплинарной ответственности за недобросовестное исполнение своих обязанностей и требовать возмещения имущественного вреда в рамках гражданского судопроизводства".

### *Для сведения:*

*За 2002—2011 годы по статье 220 УК были осуждены 6 человек: в 2002 году — 1, в 2003 году — 1, в 2006 году — 2, в 2008 году — 2.*

**— Статья 259 "Фальсификация средств измерений" — в последние годы не было ни одного осужденного по этой статье.**

**— Статья 261 "Незаконные действия в отношении почтовых марок, иных знаков почтовой оплаты, повторное использование почтовых марок".** Понятно, что большой общественной опасности в таких действиях нет. Да и подделка марок широко не распространена. В последние годы было всего двое осужденных по этой статье.

**— Статья 262 "Подделка проездных документов".**

Ответственность за такие махинации предусмотрена Административным кодексом — штраф от 10 до 20 базовых величин. И просто нонсенс какой-то, что одновременно статья оставалась и в Уголовном кодексе.

Кстати, именно по Административному кодексу в последние годы и рассматривались такие дела (всего — 3), по УК за подделку проездных документов никто не был осужден.

**— Статья 383"Самоуправство".**

Ее предлагается исключить, учитывая незначительное количество лиц, по ней осуждаемых. Да и тем, кто был осужден, суды, как правило, выписывали штрафы.

### Скостить срок

Снижение сроков наказания в виде лишения свободы законопроектом предусматривается за некоторые преступления против собственности.

— Часть 2 статьи 210 (Хищение путем злоупотребления служебными полномочиями, совершенное повторно группой лиц). Наказание было — от трех до семи лет с конфискацией имущества, предлагается — от двух до пяти и со штрафом.

— Часть 3 статьи 212 (Хищение с использованием компьютерной техники в крупном размере). Было наказание — от трех до десяти лет с конфискацией. А вот новое предложение — от двух до десяти со штрафом или даже без штрафа.

— часть 2 статьи 214 (Угон транспортного средства или маломерного водного судна, совершенный повторно или с применением насилия). Максимальное наказание было до семи лет, предлагается — до шести.

Уменьшить максимальное наказание предлагается и по ряду статей УК, касающихся нарушения порядка осуществления экономической деятельности и порядка управления. Это часть 2 статьи 233 (Незаконная предпринимательская деятельность), часть 2 статьи 234 (Лжепредпринимательство), статья 384 УК (Принуждение к выполнению обязательств).

По некоторым тяжким и особо тяжким преступлениям минимальное наказание предлагается уменьшить. Например за торговлю людьми (ст.181) — не от пяти до семи лет, а от трех до семи. А за незаконное лишение свободы (ст.183) минимальное наказание предлагается просто не устанавливать.

### Деньги, деньги

В качестве наказания по многим статьям в качестве основного или дополнительного наказания предлагается ввести штрафы. Это статьи 149, 154, 159, 161, 165, 168, 171, 175, 178, 179, 208, 210, 211, 212, 223, 233, 425, 426, 431, 433 УК и другие.

Обращает на себя внимание, что самые одиозные статьи УК — "Действие от имени зарегистрированной организации", "Клевета в отношении президента", "Дискредитация Республики Беларусь" и другие "политические" статьи курс на гуманизацию уголовного наказания не коснулся.

**Елена ДАВЫДОВА.**

## *Як мянялася цана долара*

*7 гадоў долар у Беларусі каштаваў каля 2 тысяч рублёў. Яшчэ тры гады трымаўся на ўзроўні 3 тысяч. Сёння ўжо пераваліў за 9 тысяч рублёў.*




ТАКАЯ ЖИЗНЬ

## *Ставка по кредитам на жилье увеличилась, а срок выплаты сократился*

*Условия выдачи кредитов для очередников и граждан, не нуждающихся в улучшении жилищных условий, вновь ужесточились.*

"Беларусбанк" повысил процентную ставку до 28,5% годовых, что на 3% больше прежних условий. Также для большинства категорий граждан изменились и сроки выплат: вместо прежних 20 лет кредиты выдаются лишь на 15. Сотрудники банка поясняют подобные изменения удорожанием кредитных ресурсов. К слову, еще месяц назад можно было получить кредит под 25,5% годовых, еще ранее гражданам, нуждающимся в улучшении жилищных условий, был доступен кредит под 16%, но 2 августа его выдача была прекращена.

С помощью несложных математических действий можно определить, что среднестатистическая семья попросту не потянет такой кредит. Стоимость квадратного метра в новостройке в среднем равняется 1560 долларов. Средняя площадь двухкомнатной квартиры — 60 квадратных метров. Получаем среднюю стоимость "двушки" 93.600 долларов, а банк может прокредитовать только 75% стоимости — 70.200.

Для получения кредита на такую квартиру необходимо, чтобы среднемесячный доход кредитополучателя за последние 3 месяца составлял не менее 37.657.000 белорусских рублей, а размеры ежемесячного платежа достигнут 18.828.520 рублей. Учитывая, что сегодня средняя зарплата белорусов составляет 5—6 миллионов, построиться в кредит становится практически невозможно.

ЕСТЬ ВОПРОС!

# Сколько стоит новый дворец?

*Объединенная гражданская партия обратилась к председателю Мингорисполкома Николаю Ладутько с просьбой предоставить исчерпывающую и достоверную информацию о стоимости новой резиденции — Дворца Независимости на проспекте Победителей.*

*Ранее стоимость дворца председатель ОГП Анатолий Лебедько пытался выяснить в Министерстве финансов. Однако безуспешно.*

"Принимая во внимание, что первый заместитель министра финансов Республики Беларусь В.В.Амарин в своем ответе от 29.08.2013 г. сослался на то, что именно Минский горисполком является заказчиком строительства объекта "Административное здание на территории в границах ул.Орловской — просп.Победителей — р.Свислочь, а следовательно, располагает всей информацией о стоимости строительства данного комплекса зданий, прошу в соответствии с законом "Об обращении граждан", законом "О политических партиях", статьей 34 Конституции Республики Беларусь предоставить исчерпывающую и достоверную информацию о стоимости данного объекта (включая разработку проектно-сметной документации, строительные, отделочные работы). При этом прошу уточнить, сколько средств на строительство и обслуживание выделяется из республиканского бюджета и сколько из бюджета Минска", — *написал политик в письме теперь уже главе минской власти.*

— Объединенная гражданская партия продолжает разрабатывать тему коррупции и привилегий власти, — *так прокомментировал это обращение Анатолий Лебедько.* — Эта переписка еще более актуализирует тему свободных, честных выборов в Беларуси. Гражданам страны, избирателям надо вернуть право выбора. Если бы Ладутько избирался минчанами, он бы посылал далеко-далеко и Министерство финансов, и Администрацию Александра Лукашенко, но не жертвовал бы бюджетом на такого рода сомнительные стройки. Потому что он зависел бы от минчан, которые его избирают. Так что в этом вопросе точку не ставим, — только запятую.

СИТУАЦИЯ

## *За незаконную передачу авто ответит иностранный владелец и его соотечественник*

В международном автодорожном пункте пропуска "Мокраны" сотрудники таможни изъяли легковой "Рено Меган" 2008 года выпуска, зарегистрированный на территории Украины. Как выяснилось, автомобиль в мае текущего года ввез на территорию Таможенного союза гражданин Украины.

Для временного использования, с освобождением от уплаты таможенных платежей. Однако впоследствии хозяин иномарки в нарушение действующего законодательства передал "Рено" своему соотечественнику. Без обязательного в таких случаях разрешения таможенного органа.

Как результат — "Рено" изъяли до решения суда. Автомобиль не из дешевых — стоимость его, по предварительной оценке, составляет более 100 миллионов белорусских рублей.

Административный процесс начат не только в отношении владельца "Рено", ввезшего зарегистрированный в Украине автомобиль, но и в отношении его соотечественника, который пользовался машиной на территории Беларуси. Последнего ждет штраф в размере от 5 до 30 базовых величин.

"Сейчас в соответствии с ч.3 ст.14.7 КоАП Республики Беларусь привлекаться к ответственности будет не только тот, кто ввез транспортное средство и в дальнейшем незаконно передал его, но еще и гражданин, который пользуется данным автомобилем", — прокомментировали такой "сюрприз" для некоторых водителей на Брестской таможне.

ПРОИСШЕСТВИЯ

# Сбросила с моста ребенка и сбросилась сама

*Громкое происшествие случилось в Гомеле на автомобильном мосту через Сож в минувшие выходные.*

Все произошло около 18.00. Находясь на мосту, женщина бросила в реку свою 5-летнюю дочь, а затем прыгнула сама. Свидетелями этого стали двое находившихся на берегу мужчин. По информации пресс-службы Гомельского областного управления МЧС, это 28-летний врач-хирург Ветковской районной больницы **Александр Коробейников** и 35-летний старший электромеханик районного узла связи РУП "Белтелеком" гомельчанин **Иван Гончаров.** Бросившись в воду, они смогли вытащить и мать, и ребенка и, находясь вместе с ними на подножии бетонной опоры моста, дождались прибытия спасателей МЧС и ОСВОДа.

С диагнозом "общее переохлаждение" пострадавшие были доставлены в разные больницы. При этом выяснилось, что 35-летняя женщина, находившаяся в состоянии алкогольного опьянения, проживает в городе Клинцы Брянской области.

Гомельским городским отделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело по ст.14 (ч.1), ст. 139 (ч.2) УК РБ — покушение на убийство при отягчающих обстоятельствах, сообщила официальный представитель СК РБ **Юлия Гончарова.**

Ребенок в настоящее время уже выписан из больницы и помещен в детское социальное учреждение. При падении в воду девочка получила ушибы — степень тяжести причиненных ей телесных повреждений будет определена в ходе назначенной судебно-медицинской экспертизы. Женщина также находится в медицинском учреждении, специалистам которого предстоит установить степень ее вменяемости.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
10 ВЕРАСНЯ 2013 г.

ПУЛЬС

## В Минске в сентябре начнется заселение первых арендных домов

*Заселение двух первых арендных домов начнется в столице в текущем месяце. Они переданы Парку высоких технологий.*

В качестве арендного жилья в Минске возводятся еще три дома: в жилом комплексе "Магистр", Чижовке и Шабанах. В "Магистре" в границах МКАД — проспекта Независимости — улицы Ф.Скорины планируется сдать 9-этажный дом в конце текущего года. Как сообщил заместитель главы администрации Первомайского района **Леонид Казаковский,** уже возведен его каркас, монтируется кровля. Рядом начали возводить еще одно аналогичное здание.

— Всего в "Магистре" будет 9 арендных домов: 7 панельных и 2 каркасных. Первые возводит ОАО "МАПИД", каркасные здания будут строить ПВТ и компания "Табак-инвест", — уточнил Казаковский.

## Дикость

*Светлогорским районным отделом Следственного комитета возбуждено и расследуется уголовное дело по факту обнаружения 8 сентября в колодце частного дома в райцентре трупа пенсионерки 1939 года рождения с колото-резаными ранениями различной локализации.*

Дело возбуждено по статье 139 УК (убийство с особой жестокостью).

Как сообщила БелаПАН официальный представитель Следственного комитета **Юлия Гончарова,** по подозрению в совершении данного преступления задержан сын убитой, житель райцентра 1961 года рождения, работающий в Ленинградской области РФ.

Назначены судебно-медицинские и криминалистические экспертизы, подозреваемый задержан, выясняются обстоятельства и мотивы преступления.

По неофициальной информации, труп женщины был обезглавлен.

## Пройдет карнавал

*Карнавальное театрализованное шествие пройдет в центре Минска в День города 14 сентября.*

Минчан и гостей столицы приглашают оценить мастерство уличных актеров Беларуси, а также более 10 коллективов из России, Украины, Швеции, работающих в различной стилистике. Прохожих будут развлекать живые статуи, клоуны и другие. Карнавальное шествие начнется 14 сентября в 13.30 в Михайловском сквере, продолжится по ул.К.Маркса и завершится возле сквера им. Ф.Э.Дзержинского.

## Восемь милицейских экипажей со стрельбой преследовали «бесправника»

"Около 2.00 из Ветковского РОВД поступило сообщение, что в сторону Гомеля движется автомобиль с водителем без прав, возможно пьяным, — сообщили инспекторы. — Экипаж Госавтоинспекции заметил нарушителя в районе улицы Лепешинского, начал преследование. К операции по задержанию присоединились еще 7 автомобилей других подразделений, в том числе ОМОН и "Охрана".

На сирены, маячки и команды по громкой связи водитель не реагировал. Придя к выводу, что его действия угрожают безопасности окружающих, милиционеры открыли огонь — сначала предупредительный, потом по машине. На улице Каменщикова, в районе Прудковского рынка, BMW врезался в ограждение, водитель был задержан.

Известно, что ему 25 лет, от освидетельствования на содержание алкоголя в крови он отказался. Водительского удостоверения не имеет: был лишен за пьяное вождение.

По предварительным данным, в машине задержанного найден "предмет, похожий на глушитель для нарезного оружия".

ПОСТАЦІ

# «Служы толькі Бацькаўшчыне — і ніколі не памылішся»

## *Мінуў год, як не стала Алеся Петрашкевіча (1930—2012)*

*Кожнага разу, выходзячы на ганак нашага шматпавярховага дома, міжволі паглядаю на суседні пад'езд. Ведаю, што ўжо не ўбачу свайго дарагога суседа — Алеся Лявонавіча Петрашкевіча. Год мінуў, як яго не стала. А я ўсё гляджу, быццам вось-вось з'явіцца знаёмая высокая постаць, і на асветленым усмешкай тонкім інтэлігентным твары заіскрацца вочы.*



### Адкуль?

— Ведаеце, дакапаўся да адной цікавейшай рэчы, — пачынаў ён зазвычай. — Калі хочаце, раскажу...

Яшчэ б адмовіцца! Гатова была слухаць яго расповеды хоць гадзінамі, убіраючы ў сябе кожнае слова. Толькі зрэдку, баючыся перабіць, прасіла ўдакладніць некаторыя дэталі ды час ад часу не магла ўтрымацца ад дзіцячага пытання:

— І адкуль вы гэта ўсё ведаеце?

— Як адкуль? А для чаго тады архівы, старыя выданні і рукапісы, сустрэчы з дасведчанымі ў глыбінях гісторыі людзьмі?

Алесь Лявонавіч прызнаваўся, што на пенсіі, калі стаў "вольным мастаком", пазбавіўся ўсялякіх пасад і абмежаванняў, то, нарэшце, можа пісаць пра ўсё, што хвалявала, вырывалася з душы. А хвалявала яго, што не ўсе яшчэ ўсведамляюць, як непарыўна звязана тое, што было калісьці, з тым, што ёсць сёння і будзе заўтра.

Пра галоўны творчы здабытак і, не пабаюся гэтага слова, подзвіг выдатнага творцы — пакуль бяспрыкладны ў айчыннай літаратуры звод гістарычных п'ес **"Здрапежаная зямля",** што закрываюць сабой, а па сутнасці паслядоўна, сістэмна адкрываюць нам вочы на дзесяць (!) вякоў беларускай гісторыі, я яшчэ скажу. А зараз аб тым, як ён стаў тым, кім стаў і не мог не стаць. Дэвізам яго нязменна было: **"Служы толькі Бацькаўшчыне — і ніколі не памылішся".** Нічога — па вялікім рахунку — не было выпадковым у жыцці гэтага чалавека, адоранага талентам не толькі пісаць, а і рабіць. Магчыма, ён дапускаў і некаторыя памылкі (а хто беспамылковы?) — ды не памыляўся ў галоўным.

Чула, як некаторыя, нават у дэмасярodку, дагэтуль у бок Алеся Петрашкевіча кідаюць каменьчык: маўляў, наменклатуршчык, што яго чытаць? А чаму? Давайце лепш звернемся да біяграфічных звестак пра пісьменніка, якія можна зачэрпнуць у яго грунтоўнай кнізе ўспамінаў **"Крыніцы і каламуць"** (2008). Там — не толькі пра яго самога, дзіцяці ваеннага і пасляваеннага пакалення, а і пра эпоху, што прайшла на яго вачах і праз уласны лёс, пра падзеі і гістарычныя зломы XX стагоддзя. Кніга чытаецца на адным дыханні, немагчыма ад яе адарвацца, бо напісана давяральна, проста і шчыра, даступнай усім мовай. У ёй бачыцца, як Беларуская нацыянальная ідэя, хай напачатку і не выказаная ў словах, не сфармуляваная ў стройных думках, паступова станавілася прадметам яго роздуму і крыніцай натхнення.

Яе пачатак — у роднай, найдаражэйшай мясціне на зямлі — вёсцы Пярэвалачня на Талочыншчыне, у роднай бацькоўскай хаце. З уведання таго, што прашчуры роду Петрашкевічаў належалі да старога шляхецкага роду са старажытным гербам "Лебедзь", якім у Вялікім Княстве Літоўскім карысталіся многія паважныя шляхецкія сем'і.

### Выбар

Нездарма, відаць, сваю кандыдацкую дысертацыю Алесь Петрашкевіч абараняў па гісторыі Беларусі, хоць скончыў юрыдычны факультэт. Невыпадкова замест юрыдычных талмудаў у краіне, дзе закон не дзейнічае, узяўся пісаць пра тое, што хвалявала болей за ўсё.

Так: яму ў свой час давялося папрацаваць у ЦК камсамола, затым у ЦК КПБ. Гэта дазволіла назіральнаму, удумліваму чалавеку бачыць рэчаіснасць знутры ўладнай піраміды, зразумець, дзе крыніцы, а дзе каламуць жыцця. Дзякуй Богу, ён і тады не счарсцвеў душой, не ператварыўся ў бяздумнага выканаўцу вышэйшых загадаў, не стаў чалавекам "для внутреннего употребления", "балванчыкам", які піша любую "балванку" для даклада начальніка, толькі каб ухіліцца ад непазбежных, небяспечных канфліктаў. Ён спрабаваў ужо тады асэнсоўваць шматлікія вострыя праблемы ў тагачасным грамадстве ў сваіх артыкулах, фельетонах, памфлетах, нарысах, п'есах. Пра тое далёка не ўсе тады адважваліся казаць публічна.

### Пачатак

А пачатак творчасці Алеся Петрашкевіча супаў з выкрыццём культу асобы, хрушчоўскай адлігай. Пісаў ён часам і аптымістычныя артыкулы, накшталт "По жизни победно шествует новое". Аднак у хуткім часе, назіраючы, як са сцен кабінетаў ЦК здымалі партрэты былых правадыроў, а пазней і партрэт таго ж Хрушчова (разам з ягонай "адлігай"), творца зразумеў: старое і зараз працягваецца, хай у крыху іншых вонкавых формах. Абяцаны Хрушчовым камунізм аказаўся міфам. Пры новым "Ільічу" ў душы "наменклатуршчыка" пахіснулася вера ў знакаміты лозунг "Народ и партия едины" (як некалі ў справядлівейшую ў свеце савецкую юрыспрудэнцыю).

Сумленнаму творцу заставалася адна магчымасць, адна зброя ў барацьбе за лепшую долю Бацькаўшчыны — праўдзівае мастацкае слова. І ўжо тады гэтае слова вылілася ў драматургічным жанры — пакуль у падцэнзурным, зацугляным выглядзе. У 1960—1970-я гады з'яўляюцца першыя камедыі А.Петрашкевіча "Адкуль грэх", "Злыдзень", "Укралі кодэкс", драма "Трывога". У іх была вастрыня і непадробны непакой за ганебныя з'явы, што закраналі тагачасных людзей і — на бяду — актуальныя сёння: чыноўніцкі бюракратызм, падхалімства, распаўсюджванне п'янства, згуба маральных арыенціраў. Эх, узнавіць бы пастаноўку некаторых гэтых п'ес зараз! Ды хто дапусціць?

Пісьменнік-"наменклатуршчык" падводзіў чытача і гледача да думкі: прычыны нашых бед — у самой сістэме, заснаванай на страху, непрадказальнасці, бяздумным падпарадкаванні вышэйшаму начальству. Прыспела пара сур'ёзных змен. У драмах "Соль", "Мост упоперак ракі" ў цэнтры ўвагі — нашы хворыя экалогія і духоўнасць, пакутныя пошукі шляхоў да абароны адвечных нацыянальных каштоўнасцяў. Драматург распрацоўвае і жанр п'ес-фантасмагорый ("Куды ноч, туды сон", "Крыж святой Еўфрасінні", "Катастрофа розуму", "Памінкі").

Канечне ж, яго не адпускае тэма вайны, перажытай ім самім і старэйшым пакаленнем у ліхую гадзіну (трагедыі "Злавеснае рэха", біяграфічная драма "У спадчыну — жыццё"). Разам з Уладзімірам Халіпам Алесь Петрашкевіч піша сцэнарый да пяцісерыйнага фільма "Час выбраў нас"; ставіцца ягоны тэлеспектакль пра Францыска Скарыну, здымаецца мастацкі фільм па п'есе "Трывога", увасабляюцца на сцэне лібрэта оперы па паэме Якуба Коласа "Новая зямля", інсцэніроўкі па творах Уладзіміра Караткевіча, Уладзіміра Ліпскага, Генрыха Далідовіча і іншых аўтараў. Выдаюцца апавяданні з ваеннага і пасляваеннага жыцця аднавяскоўцаў. У часопісе "Вожык" друкуецца цэлы цыкл фельетонаў пад псеўданімам Алесь Тутэйшы вострападзённага характару. І ўсё — пра неабходнасць абнаўлення і ачышчэння крыніц ад каламуці.

### Памяць

Вось такі, не зусім тыповы, атрымаўся наменклатуршчык.

Нарэшце, подступ да галоўнай тэмы ў ягонай творчасці — гістарычнай, да якой ён падыходзіць ужо ў 1980-я гады (першая такая п'еса "Напісанае застаецца" пра Ф.Скарыну з'явілася яшчэ ў 1979 годзе). Глыбокай зацікаўленасці гісторыяй Бацькаўшчыны паспрыяла і працяглая праца ў Беларускай энцыклапедыі — разам з Петрусём Броўкам ён быў яе заснавальнікам, затым адказным сакратаром, намеснікам галоўнага рэдактара...

Колькі яму давялося пералапаціць разнастайных матэрыялаў — па гісторыі, літаратуры, культуры, мастацтве — дзеля распрацоўкі канцэпцыі і стварэння першай нацыянальнай энцыклапедыі. Якія горы разрозненых звестак сістэматызаваць, асэнсаваць велізарны аб'ём інфармацыі! Ён знаходзіў у мінулым тое, што было важна ведаць і ў сучаснасці.

Усе гэтыя матэрыялы не маглі, вядома, змясціцца ў 12-томным зборы. І тады ў Алеся Петрашкевіча нарадзілася ідэя серыі кніг "Памяць" па **кожным раёне** Беларусі! Ідэю падтрымаў П.М.Машэраў, пісьменніку даручылі кіраўніцтва арганізацыйна-метадычным цэнтрам гістарычна-дакументальных хронік, якія цяпер ужо, на шчасце, рэалізаваны. Ва ўнікальных кнігах "Памяць" — факты і падзеі з гістарычнага летапісу Беларусі, мноства імёнаў знакамітых і простых людзей, іх справы і характары, прыгажосць і веліч продкаў і сучаснікаў, багацце нацыянальнай культуры і навуковай думкі.

Само сабою, пра многае тады яшчэ было немагчыма сказаць напоўніцу ўголас. Але тое, што ўпершыню былі ўваскрэсены імёны незаконна рэпрэсаваных ахвяр сталіншчыны, стваралася палатно рэальнага жыцця, гісторыя беларускай дзяржаўнасці, — пераацаніць немагчыма. Гэта была родная стыхія для пісьменніка, крыніца новых ведаў, якія потым рабіліся асновай яго новых пошукаў і мастацкіх твораў. Нямала давялося перацярпець тады ад махровых наменклатурных чыноўнікаў і навукоўцаў, не раз змагацца за шырокае і праўдзівае асвятленне гістарычных падзей. Аднак варта было, напрыклад, трапіць на прэзентацыю кніг "Памяць" у тым або іншым раёне, каб пераканацца: гэта ж свята для людзей, абуджэнне ў іх памяці пра справы продкаў, гонар за ўласныя здзяйсненні. Дарэчы сказаць: Алесю Петрашкевічу ў ліку іншых за кнігі "Памяць" была прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларусі, пазней ён быў узнагароджаны медалём Ф.Скарыны, атрымаў званне заслужанага работніка культуры.

### Глыба за глыбай...

Праз выпрабаванні, боль і радасць сцвярджалася ўсведамленне: ён не можа не пісаць пра гісторыю Радзімы, каб прыадчыняць яе праўдзівай, пазбаўленай ілжы ідэалагічных напластаванняў, штампаў і табу. Пісьменнік цалкам пераключыўся на гэты жанр, у рэчышчы якога толькі за апошнія гады яго жыцця было напісана звыш 20 п'ес! Многія ўвайшлі ў кнігу **"Воля на крыжы"** (2000 г.) — "Гора і Слава", "Меч Рагвалода", "Напісанае застаецца", "Прарок для Айчыны". Самы ж, на маю думку, грунтоўны і цэласны твор — трагічная і маштабная кніга-панарама **"Здрапежаная зямля"** (2003 г.). Вось толькі назвы некаторых п'ес — частак магутнай мастацкай фрэскі: "Крыжовы шлях на Грунвальд", "Расплата за здраду", "Каралеўска-царская пастка", "Рупнасць дзяржаўцы", "Час усё адкрые", "Развітанне з Радзімай", "Рыцар свабоды", "Апошні збройны чын", "Наканавана быць прарокам", "Дагарэла свечачка". Вось гэта мастацкі фаліянт, варты мноства гістарычных даследаванняў!

Асобным выданнем выйшла гістарычная трагедыя **"Прыласкать и уничтожить"** (2008 г.) прысвечаная змагарам-адраджэнцам пачатку XX стагоддзя і падзеям таго зломнага перыяду, калі вырашаўся лёс нашага народа і зямлі, знявечанай чужынцамі цягам стагоддзяў. Некаторыя п'есы публікаваліся ў незалежным перыядычным друку — газетах "Народная Воля", "Наша слова", часопісе "Дзеяслоў". Да абуджэння нацыянальнай свядомасці сучаснікаў былі скіраваны гісторыка-публіцыстычныя, філасофскія артыкулы, п'есы "Інтэлігенты", "Інтэрнацыянал па-беларуску", "Памінкі", "Прагноз на паслязаўтра", "Арліны лёт". Алесь Лявонавіч паспеў падрыхтаваць да друку і свой двухтомнік, куды ўключаў многія п'есы, нідзе яшчэ не публікаваныя. Але ўбачыць тое выданне яму не было суджана. Як яго ажыццявіць цяпер? Праблема...

Сёння кнігі Алеся Петрашкевіча, як і многіх лепшых беларускіх пісьменнікаў, амаль не знойдзеш у кнігарнях. Існуе, па ўсім відаць, негалосная забарона на творы "нячэсных" аўтараў і ў тэатрах, і на тэлебачанні. Таму не дзіўна, што тыраж выдатнай кнігі "Крыніцы і каламуць" — гісторыя блізкага нам XX стагоддзя — усё яшчэ ляжыць на кватэры Алеся Лявонавіча, яе могуць набыць і ацаніць як след толькі блізкія, знаёмыя людзі...

### Без яго

...Мінуў ужо год, як пайшоў у вечнасць наш таленавіты сучаснік і патрыёт Алесь Петрашкевіч. Пайшоў — назавём рэчы сваімі імёнамі — не прачытаным як след, уважліва і зацікаўлена. Пайшоў не ўсімі зразумелым. І тут справа, думаецца, зусім не ў "занадта зацягнутых маналогах", а ў прынцыповай грамадзянскай і мастакоўскай пазіцыі пісьменніка. Яна была несумяшчальнай з сённяшняй лініяй дзяржаўнай дактрыны: беларуская гісторыя пачынаецца толькі з 1917 года. І кропка!

...Адсюль, напэўна, ад глыбокай унутранай драмы ішла і яго стоеная, знешне прыхаваная самота, асабліва апанаваўшая, калі страціў сваю дарагую жоначку Аду Мікалаеўну, якую праз усё жыццё кахаў і захапляўся яе прыгажосцю. Пра яе ён вельмі многа мне расказваў.

Не даводзілася чуць ад Алеся Лявонавіча скарг, нараканняў на балючыя, несправядлівыя ўколы ці з аднаго, ці з другога боку. "Наменклатуршчыка" не хацелі ведаць некаторыя са "сваіх", з дэмакратычнага кола. А з іншага... "Зацяты нацыяналіст, мы ўжо напісалі куды трэба", — пагрозліва сіпелі пры адным яго імені апалагеты старога. І тыя, і другія рабілі выгляд, што такога творцы, такой значнай асобы папросту няма...

Не памятаю, каб ён вонкава рэагаваў на падобныя выпады "злева" ці "справа". Усё разумеючы, "адкуль грэх" і часам смеючыся, пераказваў характэрныя эпізоды-недарэчнасці. А пацэленыя стрэлы абляталі яго, прыніжаючы толькі саміх "ваяроў".

Як пісьменнік, як грамадзянін Алесь Петрашкевіч пакінуў нам свой запавет: *"Не спяшайцеся ж развітвацца з Радзімай, пачуйце, пачуйце ж не толькі Еўропу, але і саміх сябе. Пачуйце!.. У чым мая рупнасць і непакой сёння, пытаецеся? Усё ў тым жа: хачу свайму народу волі, незалежнасці, дзяржаўнасці і нейтралітэту ў міжнародных стасунках. Праз свае пісьменства вяртаю Бацькаўшчыне і яе насяленцам гістарычную памяць, родную мову і нацыянальную годнасць праз нацыянальную ідэю, каб Беларусь стала сапраўды дзяржавай беларускай".*

Не ведаю, ці быў сам пісьменнік упэўнены, што яго велізарная, апантаная адзіным памкненнем праца будзе не дарэмнай, камусьці спатрэбіцца, і яго жыццё — хай сабе пасля жыцця — акажацца не марным. Міжволі на памяць прыходзяць празорлівыя — не па гадах — радкі з верша зусім яшчэ юнай на той час рускай паэткі Марыны Цвятаевай, якая потым стане агульнапрызнаным класікам. А на пачатку свайго шляху напіша: *"Моим стихам... разбросанным в пыли по магазинам, где их никто не брал и не берет, — моим стихам, как драгоценным винам, настанет свой черед!"* Як у ваду глядзела.

І я абсалютна ўпэўнена: Алесь Лявонавіч застанецца назаўсёды ў сваіх творах, па якіх і сёння, і заўтра, і паслязаўтра можна вывучаць гісторыю Беларусі — у адрозненне ад "навуковых" фаліянтаў яго неўтаймаваных крытыкаў, што старанна хаваюць праўду Гісторыі.

**Лідзія САВІК.**

## Андрэя Лушча зноў узялі пад варту. Ці надоўга?

### *У свой час пра гэты скандал пісалі амаль усе СМІ. Фірма "Кансент" з Гродна сабрала з людзей грошы на будаўніцтва кватэр, але абавязацельствы не выканала.*

Калі людзі, стаміўшыся ад абяцанак-цацанак, пачалі звяртацца ў мясцовыя органы ўлады, то іх нават слухаць ніхто не хацеў: маўляў, вас ніхто не прымушаў звязвацца з "Кансентам". Магчыма, гэта тлумачыцца тым, што частка кватэр у дамах "Кансента" прадавалася нейкім таямнічым асобам проста па нерэальна смешных коштах. У любым выпадку падманутыя ў сваіх чаканнях навасёлы напісалі не адну заяву, абхадзілі шмат кабінетаў, перш чым дабіліся ўзбуджэння крымінальнай справы.

Працэс над дырэктарам "Кансента" Андрэем Лушчом пачаўся яшчэ ў 2011 годзе. І вось на гэтым тыдні абвешчаны прысуд. Прыгавор, які заняў 200 старонак, зачытвалі два дні. Як паведаміў старшы памочнік пракурора Гродзенскай вобласці Вячаслаў Ігнацік, Андрэй Лушч асуджаны па ч.3 арт.424 КК РБ (злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі, што пацягнула цяжкія наступствы). Па рашэнні суда ён прыгавораны да трох гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці, а таксама з пазбаўленнем права займаць кіруючыя пасады на працягу пяці гадоў. На працягу 10 дзён асуджаны можа падаць касацыйную скаргу ў Гродзенскі абласны суд. У зале суда Андрэя Лушча зноў узялі пад варту, хаця ў красавіку мінулага года яму змянілі меру стрымання з заключэння пад варту на хатні арышт.

Улічваючы той факт, што следства доўжылася амаль 2,5 года, з трох гадоў асуджанаму засталося правесці за кратамі толькі 6 месяцаў і 3 дні.

Міжволі звяртае на сябе ўвагу вось якая акалічнасць. Санкцыі артыкула 424 прадугледжваюць пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі ад трох да дзесяці гадоў з канфіскацыяй маёмасці. Атрымліваецца, што чалавеку, які фактычна кінуў вялікую колькасць людзей на немалыя грошы, далі самы мінімальны прысуд з магчымых.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

СУД

## В Смоленске бросят за решетку белоруса

В убийстве двух человек, разбое, угоне автомобиля, умышленном повреждении чужого имущества и побеге из-под стражи обвиняется 31-летний гражданин Беларуси. Все эти умышленные преступления, по версии завершившего расследование уголовного дела Следственного комитета России, мужчина совершил 10—11 сентября 2012 года на территории Смоленской области.

Обвиняемый белорус был ранее судим на родине за умышленное убийство из хулиганских побуждений и приговорен к 15 годам лишения свободы в исправительно-трудовой колонии усиленного режима. В октябре 2011 года был условно-досрочно освобожден от отбытия наказания, однако должных выводов для себя не сделал.

Как сообщает "Современный Смоленск", летом 2012 года злоумышленнику стало известно, что у его знакомого, занимающегося нелегальным обменом белорусских рублей на иностранную валюту, есть 20 тысяч долларов США, и решил их похитить. Для реализации преступного замысла он привлек своего знакомого, ранее судимого. Мужчины разработали план: обвиняемый должен был предложить нелегальному валютчику работу в Москве в качестве бригадира строительной бригады и уговорить поехать в Москву на его автомобиле, взяв с собой деньги.

В ночь с 9 на 10 сентября 2012 года трое мужчин на принадлежащем потерпевшему автомобиле "Мерседес-Бенц С-180" выехали из Могилева в Москву. На 246-м километре автодороги Москва—Минск в районе деревни Черное Вяземского района Смоленской области, видя, что на дороге нет попутного и встречного транспорта, злоумышленники попросили остановить автомобиль на обочине, чтобы выйти по естественной нужде. А когда вернулись в машину, один из них набросил водителю на шею свой брючный ремень и попытался его задушить.

Мужчина оказал сопротивление. Ему даже удалось выбраться из салона авто. И все же преступники догнали его и все тем же ремнем задушили в кювете.

Убив водителя, они похитили 20 тысяч 400 долларов США и 20 тысяч рублей. После чего скрылись с места преступления на автомобиле жертвы.

Чтобы скрыть следы злодеяния и исключить возможность опознания потерпевшего по отпечаткам пальцев, злоумышленники отчленили мужчине кисти рук. Тело они оттащили в лесополосу.

Возвращаясь в Беларусь, обвиняемый передумал делиться с подельником. Когда они остановились у кладбища в деревне Барсуки Рославльского района, чтобы сжечь одежду, в которой находились в момент убийства, он, используя нож, хладнокровно расправился с помощником.

Пытаясь скрыться, злоумышленник в районе деревни Усвятье Дорогобужского района не справился с управлением автомобиля и съехал в кювет. Выехать не смог и уничтожил машину: газовой зажигалкой поджег панель приборов в салоне.

22 сентября 2012 года обвиняемый был задержан.

В период нахождения под стражей подследственный 1 октября 2012 года совершил побег из изолятора муниципального отдела МВД России "Дорогобужский", однако через несколько часов был задержан в лесном массиве.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
10 ВЕРАСНЯ 2013 г.

ТОЧКИ НАД «І»

# Шахматной доской по голове



Последние события вокруг ареста российского топ-менеджера еще раз обратили внимание на тот общеизвестный факт, что белорусская власть плотно и целенаправленно окружила себя врагами, внутренними и внешними, и увлеченно воюет со всеми. На все остальное времени уже практически и не остается. Но кто много воюет — тот плохо торгует, как говорят. И наоборот.

Для бизнеса, для сферы конкурентной борьбы, это довольно верно. Часто все силы бросают на борьбу с конкурентами, при этом про потребителя просто забывают. Такой бизнес обязательно ждет крах, даже если в войнах с конкурентами и удается одерживать победы. Например, железнодорожные компании США на рубеже XIX—XX веков в очень жесткой форме конкурировали между собой, причем там было и покруче, чем в нашем случае, доходило до оружия и диверсий против конкурентов. "Дикий капитализм", одним словом. Однако при этом конкурирующие стороны напрочь забывали про интересы пассажиров и развитие собственных технологий. И сегодня подавляющее большинство американцев ездит на автомобилях или летает самолетами, а железные дороги в США сохранились во многом как историческая диковинка.

Генри Форд, один из невольных могильщиков железнодорожного бума в США, принципиально отказался от подобных методов конкуренции, сосредоточившись на том, чтобы сделать свой продукт более доступным для потребителя. За счет этого и победил. "Не обращай внимания на конкуренцию. Пусть работает тот, кто лучше справляется с делом. Попытка расстроить чьи-либо дела — преступление, ибо она означает попытку расстроить в погоне за наживой жизнь другого человека и установить взамен здравого разума господство силы" (Генри Форд "Моя жизнь, мои достижения").

Там же, где железнодорожники думали о потребителе и собственном развитии, а не только о войне с конкурентами, железные дороги сохранили свою нишу, в некоторых странах весьма существенную. Так, к примеру, скоростные поезда очень успешно теснят авиацию при поездках на средние расстояния, но в США их фактически нет, хотя страна и не отсталая. На рынке все же лучше работать рыночными методами.

События же вокруг конфликта с "Уралкалием" еще раз с очевидностью подтвердили тот факт, что белорусская власть просто не умеет работать по рыночным правилам и, самое прискорбное, агрессивно не желает этому учиться. "Уралкалий" переиграл белорусских "бизнесменов" рыночными методами, хотя и жесткими. Белорусские власти ответили привычными силовыми методами, которые они всегда активно использовали и используют против бизнеса внутри страны. Но совсем не факт, что эти методы принесут успех в отношении российского и прочего иностранного бизнеса. А в долгосрочной перспективе проигрыш неизбежен. Ведь невозможно выиграть силовыми методами в конкурентной борьбе с бизнесом всего мира. И далеко не очевидно, что "Уралкалий" будет повергнут в прах. Предыдущий опыт тоже должен был показать, что силовые методы в бизнесе — далеко не гарантия успеха. Вот, к примеру, в свое время Марата Новикова власти не повергли в прах, а лишь поставили на грань выживания "Спартак" и "Коммунарку" и ничему при этом не научились. А ведь Новиков и сам признает, что помельче "Уралкалия" будет. *"По уровню я, конечно, весьма далеко от гендиректора "Уралкалия". Я далеко внизу от того уровня, на котором находится арестованный белорусскими властями олигарх", — заявил Марат Новиков в интервью "Еврорадио".*

Это точно так, как если бы некто, вчистую проигрывая шахматную партию, в истерике хватает шахматную доску и бьет ею противника по голове. Некоторые из зрителей, возможно, даже и аплодировать будут: "Как крут!" А на деле — нисколько. На бойцовский ринг идти он боится, видимо, понимает, что там у него нет шансов. Иначе не шел бы в шахматы. Так и наша власть. В бизнесе и сопутствующей ему конкурентной борьбе ее навыки близки к нулевым, но и военного противостояния ни с Россией, ни с Польшей, ни даже с Украиной ей не выдержать. Правда, когда такой "шахматист" у власти, проблем вроде бы и нет. Объявляется, что такие вот у нас уникальные правила игры в шахматы. Но власть "шахматиста" не распространяется на весь мир, а играть по общепринятым правилам он не умеет, да и категорически не желает. Поэтому исход партии "в мировом масштабе" предрешен.

И если мы все же хотим построить европейское, цивилизованное государство, то от "пацанских" привычек придется избавляться, равно как и от уникальных "боевых шахматных правил". Иначе нам же будет хуже. Ведь можно, в конце концов, нарваться и на "шахматиста" с пулеметом. Вот, например, "друг Саддам" и "брат Муаммар" тоже пытались навязать миру свои уникальные правила игры, и в течение пары десятков лет как будто даже успешно, но где они сейчас? И где их правила?

В экономике, как и в шахматах, для победы очень важно умение просчитывать последствия на несколько ходов вперед. Наша власть этого делать, похоже, не умеет. Скажем, сейчас окончательно потеряли всякий смысл планы строительства в Беларуси производств, ориентированных на экспорт в Россию. Это ведь далеко не первый "взбрык" нашей власти и, можно быть уверенными, вовсе не последний. И всегда Россия отвечает ограничением белорусского импорта в свою страну. Плюс теперь станет проверять соответствие наклеек "Зроблена ў Беларусі" реальному происхождению товаров.

Поэтому зачем, к примеру, "хорошим восточным братьям" строить разрекламированный "технопарк", если экспорт из него в Россию постоянно будет под угрозой? Нет, проект не закроют совсем: не только наши власти, но и их партнеры-соучредители терять лицо не любят, но может так получиться, что строительством очередного казино и парочкой отелей все и ограничится. Ну еще наши власти что-нибудь построят за счет связанных кредитов. Но грандиозные надежды в целом, в том числе и на громадные прямые инвестиции, скорее всего, уже не оправдаются.

**Юрий ПШЕННИК.**

## *Тэлеграма*

Паважаны Іосіф Паўлавіч!
Паважаныя карэспандэнты-народавольцы!

Прыміце ад чытачоў Гродзеншчыны сардэчнае віншаванне з Міжнародным святам салідарнасці журналістаў і Днём беларускага пісьменства! Няхай ваша праца застаецца маяком для кожнага беларуса, няхай гэты маяк дапамагае нам адчуваць сябе гаспадарамі на сваёй роднай зямлі! І дзякуй Богу, і дзякуй галоўнаму рэдактару Іосіфу Паўлавічу Сярэдзічу, і дзякуй творчаму калектыву, што ў нас ёсць свая родная "Народная Воля".

Жыве Беларусь!
Жыве "Народная Воля"!
**З павагай —**

**Роза РЫМАР.**

*Гродна.*

SOS!

## *Не хочуць быць жабракамі*

Сёлета на фізіка-матэматычным факультэце Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта былі спецыяльнасці, на якія не было пададзена ніводнай заявы. Абітурыенты былі б залічаны на бясплатнае навучанне з любымі баламі, з любымі ведамі, але не знайшлося ніводнага жадаючага. І спецыяльнасці такія: "Матэматыка (навукова-педагагічная дзейнасць)" і "Фізіка (навукова-педагагічная дзейнасць)".

Гэта ж проста жах! Да чаго ж мы так дойдзем?

Не думаю, што наш Брэсцкі ўніверсітэт у гэтым сэнсе ўнікальны. Гэта проста тэндэнцыя: школьнікі не хочуць быць жабракамі — ні навукоўцамі, ні выкладчыкамі.

**Галіна Васільеўна ВАРАНЦОВА.**

*Брэст.*

КРИК ДУШИ

# Старшим офицерам и генералам и черт дитя колышет

Пишет группа военных пенсионеров, проживающих в г.Слуцке. А поводом написания этого письма в "Народную Волю" послужило последнее повышение пенсий военным пенсионерам. Вокруг этого события по всей стране было много слухов и кривотолков, но даже сегодня мы остаемся в неведении о том, откуда появились эти средства, как и кто принимает решение об их распределении между разными категориями пенсионеров. Ни по радио, ни по телевидению об этом ни слова.

Сведущие люди говорили, что деньги на повышение пенсий белорусским пенсионерам дала Россия с условием повышения пенсий всем категориям пенсионеров на 60—70 процентов, независимо от занимаемой должности и воинского звания. Но на деле все произошло совсем не так. Прапорщикам повысили всего лишь на 25 процентов, и наша пенсия повысилась на суммы от 280 до 380 тысяч. Младшим офицерам повысили примерно на 35—40 процентов. Зато старшим офицерам — аж до 85 процентов. Точность этих цифр мы приводим из опросов этих категорий пенсионеров, так как официальных данных нигде нет, видимо, это глубокая военная тайна.

Пенсии нам, военным, поднимают нечасто, и мы этого ждали с нетерпением, особенно низшее звено — прапорщики. Наша пенсия сейчас равняется пенсии среднего рабочего по стране. Если несколько лет назад пенсии военных были намного больше, то сегодня матери-колхозницы некоторых из прапорщиков получают пенсии на тысяч 200—300 больше, чем их сыновья. В уравнивании пенсий просматривается нехорошая тенденция принизить значение ратного воинского труда. Частенько за спиной мы слышим упреки гражданских людей, что мы жируем за их счет, получая барские пенсии.

Если сравнить их пенсии и старших офицеров, генералов, то, видимо, они правы. А вот что касается младших офицеров и особенно прапорщиков, то здесь картина совсем другая. Разница между этими двумя категориями пенсионеров существенная: от добавки прапорщикам 300—400 тысяч до 3 миллионов старшим офицерам и генералам. Такой разницы за всю службу мы не помним, и это зарождает у нас сомнения: а все ли так правдиво на самом деле? Или это тот случай, когда, перефразируя известную поговорку, можно сказать: старшим офицерам и генералам и черт дитя колышет.

Хотелось бы прояснить этот вопрос через "Народную Волю". Когда повышают пенсии на 5—7 процентов гражданским людям, то об этом трубят во всех средствах массовой информации. А вот когда дело касается нас — вокруг глухая стена. Пусть народ узнает правду, кто еле сводит концы с концами, а кто жирует за их счет.

Хотим добавить, что на долю прапорщиков в армии выпала самая черновая, повседневная работа. Многие из нас прошли Афганистан и другие горячие точки. Нас меньше всего награждали и чествовали в жизни, даже если было за что. Благодарность и грамота — вот в основном и все, на что мы могли рассчитывать. Будем вам признательны за исчерпывающий ответ на страницах вашей газеты.

**С уважением к вам прапорщики —**

**А.И.ЯЦКО,
Л.М.ЗАЖЕВСКИЙ,
И.А.ЛЕЩЕНКО,
А.А.СТАТКЕВИЧ,
всего 40 подписей.**

**ОТ РЕДАКЦИИ**

*"Народная Воля" проведет журналистское расследование и в одном из ближайших номеров изложит в подробностях суть проблемы.*

СТАРАЯ ПРОБЛЕМА

# Эх, яблочко...



И вновь сезон урожая, и вновь старые проблемы. Вы видели в магазинах белорусские яблоки? Нет, конечно, дефицита яблок на прилавках нет. Но они выращены в Польше, в Голландии, в Молдове — где угодно, только не в Беларуси.

Между тем урожай яблок в этом году, если не повсеместно, то во многих районах, слава Богу, неплохой. Сады в Минской и Могилевской областях (может, и в других, просто я там не была) радуют глаз, ветки яблонь под тяжестью плодов просто гнутся к земле. Но почему-то некому эти яблоки собрать и доставить в магазины.

Причем самое обидное, что об этой проблеме мы говорим из года в год. Однако ничего не меняется. Это невольно наталкивает на мысль, что торговым сетям просто невыгодно продавать дешевые и качественные белорусские яблоки. Не исключаю даже, что поставщики импорта им просто доплачивают за такую нелюбовь к белорусскому.

**Янина ВАСИЛЕВСКАЯ.**

*Минск.*

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## *Ці мог Баўмгертнер атрымаць перадачу адразу пасля затрымання?*

***Не хачу нават разбірацца ў канфлікце "Уралкалия" і "Беларуськалія", бо мне падаецца, што тут абое рабое, але здзівіла і, калі хочаце, абурыла мяне вось што. Затрымалі чалавека, і некалькі дзён не было магчымасці перадаць яму нават нейкія простыя рэчы — зубную пасту, спартыўны касцюм, трусы, наскі... Адвакатам патлумачылі, што затрыманым нічога перадаць нельга — толькі арыштаваным. Звычайны чалавек і розніцы не зразумее паміж гэтымі статусамі, бо так ці інакш чалавек апынуўся ў камеры следчага ізалятара. У чым быў — у тым забралі...***

***Што гэта за закон такі? Што гэта за здзек?***

**Ганна Салаўянчык, Мінск.**

ДА ВЕДАМА

## *Павел САПЕЛКА, былы адвакат: «Правілы не павінны супярэчыць закону»*

— Супрацоўнікі СІЗА КДБ Беларусі, мякка кажучы, пакрывілі душой, калі адмовіліся прыняць перадачу затрыманаму гендырэктару "Уралкалия" Уладзіславу Баўмгертнеру. І беларусам гэта таксама трэба мець на ўвазе, каб адстойваць у падобных выпадках свае правы. Насамрэч Закон "Аб парадку і ўмовах утрымання асоб пад вартай" не адрознівае правы затрыманых і зняволеных пад варту, там ім даецца адзінае вызначэнне — "асобы, якія ўтрымліваюцца пад вартай". У адпаведнасці з названым законам, асобы, якія ўтрымліваюцца пад вартай, маюць права, у тым ліку, атрымліваць інфармацыю аб сваіх правах і абавязках, рэжыме ўтрымання пад вартай, парадку падачы хадайніцтваў, прапаноў, заяў і скаргаў; на асабістую бяспеку ў месцах утрымання пад вартай; на гуманнае абыходжанне і павагу іх чалавечай годнасці; атрымліваць пасылкі, перадачы; атрымліваць і адпраўляць грашовыя пераводы; на перапіску; на дадатковае матэрыяльна-бытавое забеспячэнне.

Асобам, якія ўтрымліваюцца пад вартай, дазваляецца атрымліваць без абмежавання колькасці пасылкі, вага якіх не павінна перавышаць нормаў, устаноўленых паштовымі правіламі, а таксама перадачы агульнай вагой не больш за 30 кілаграмаў у месяц. Грашовыя пераводы, што паступаюць асобам, якія ўтрымліваюцца пад вартай, залічваюцца на іх асабовыя рахункі, пра што паведамляецца ім і органу, які вядзе крымінальны працэс. Пасылкі і перадачы, якія змяшчаюць лекавыя сродкі, прымаюцца пасля заключэння ўрача па месцы ўтрымання пад вартай. Пералік прадметаў і рэчываў, забароненых да перадачы ў месцы ўтрымання пад вартай, вызначаецца Правіламі ўнутранага распарадку адпаведнай установы.

Рэжым, які павінен забяспечыць выкананне правоў, свабод і законных інтарэсаў асоб, што ўтрымліваюцца пад вартай, выкананне імі сваіх абавязкаў, ахову і нагляд за імі, бяспеку іх і супрацоўнікаў СІЗА КДБ вызначаюць Правілы ўнутранага распарадку ў следчых ізалятарах органаў дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь. У Правілах устаноўлены тыя самыя правы затрыманых, паколькі Правілы не могуць супярэчыць Закону.

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# Стрэмка ў сэрцы

Ужо які дзень сонца смаліць неміласэрна, заганяючы ў цень усё жывое. Бабуля Марыя Кузьміцкая (імёны людзей і назва населенага пункта зменены), хата якой стаіць ля шашы на ўзгорку бліз вёскі Сінічы, ледзь не плача, гледзячы праз акно на свой агарод. Грады трэба паліваць, а сілы няма. Учора набрала ў калодзежы паўвядра вады і, пакуль несла да грады з агуркамі, два разы адпачывала. Хіба гэта паліванне? Па ўсім відаць, што гурочная завязь спячэцца, не ўвабраўшыся ў сілу. Буракі і кабачкі ўслалі зямлю павялымі лістамі. Нічога тут не паправіш. Хіба толькі дождж надарыцца, а так застануцца яны з Дзімам без агародніны. Ды Дзіму і клопату мала: штодзень не прасыхае ад таннага віна... І нага баліць — пакалечана...

А ці пра такую старасць яна думала? Калі ў маладым веку памёраў муж Вінцук, пакідаючы Марыю з малым сынам на руках, то суцяшаў:

— Не гаруй, Марыся! Час ляціць хутка, і агледзішся не паспееш, як падрасце наш сынок, будзе табе дапамога на старасці гадоў. Беражы яго як зрэнку вока!

Яна і берагла. Дзіма вырас прыгожым і працавітым хлопцам. Закончыў сярэднюю школу, у ПТВ набыў спецыяльнасць вадзіцеля, працаваць пачаў у адной з будаўнічых арганізацый райцэнтра.

Калі прыйшоў час служыць у арміі, па вясковым звычаі справіла яму праводзіны, на якія запрасілі мясцовых хлопцаў і дзяўчат, радню, суседзяў, усё, як у людзей.

Спачатку Дзіма рэгулярна слаў пісьмы, а потым іх не стала. Ад перажывання яна ўчарнела, не магла ні спаць, ні есці. Пайшла ў раённы ваенкамат пытацца, што з яе сыночкам, а там і сказалі:

— Ён выконвае інтэрнацыянальны абавязак у Афганістане...

— А Божа ж мой! — ледзь не загаласіла Марыя, бо ўжо ад вясковых людзей чула пра той Афганістан, што вайна там ідзе.

— Што ж мой Дзіма ды такія, як ён, завінаваціліся той далёкай краіне?! Кажуць, што многіх ужо ў цынкавых трунах адтуль прывезлі.

— Не перажывайце, ідзіце дадому. Прыйдзе час, і ваш сын вернецца, — адправілі яе з ваенкамата.

І яна пайшла, але не супакоілася, а, наадварот, стала перажываць яшчэ больш. Работа валілася з рук, ні адна светлая думка ў галаву не прыходзіла. Толькі трывога і роспач.

Можа, у добрую хвіліну сказаў словы пра вяртанне той чалавек з ваенкамата, можа, проста яна нарадзілася пад шчаслівай зоркай, але дачакалася-такі свайго сыночка. Праўда, амаль год праваляўся ён у ваенным шпіталі. Нагу дактары ўратавалі, але застаўся кульгавым на ўсё жыццё. І балела вельмі. Іншы раз так, што і абязбольваючыя таблеткі мала дапамагалі. Дзіма скрыгатаў зубамі, лаяўся і праклінаў і тую далёкую вайну, і тых, хто яго туды паслаў. Боль і пакуты сына стрэмкай заселі ў мацярынскім сэрцы. Ён пакутаваў, і яна разам з ім. Дзе толькі не спрабавала лячыць: і ў бальніцу клала не раз, і да розных знахарак вазіла — толку нуль. Накупляла абязбольваючых таблетак, і толькі імі ратаваліся.

А Дзіма праз некаторы час знайшоў і іншыя "лекі": прызвычаіўся да спіртнога.

— Сыночак! Гэта ж прыносіць табе яшчэ большыя пакуты! — казала з жалем. — Твой бацька не мог піць спіртнога, вельмі пакутаваў ад яго, і ты такі ж удаўся. Не пі, прашу цябе!

— Маці, не лезь! — казаў Дзіма. — Як вып'ю, то мне хоць нейкі час лягчэй на душы. Здаецца, што жыццё не такое паганае і беспрасветнае, што будзе некалі і ў мяне шчасце.

— Будзе, сынок, а як жа! — хапалася яна за гэтую думку, як тапелец хапаецца за саломінку. — І ажэнішся ты яшчэ. Кабет жа хапае.

— Ага, хапае! Толькі не для мяне. Каму патрэбны кульгавы калека? Да таго ж бедны, як мыш касцельная. А кабеты цяпер любяць багатых.

— Дык ты ж пенсію атрымліваеш. І я атрымліваю. З голаду не прападзём.

— Во, толькі што з голаду не прападзём. Можа, я сваёй жонцы добрае адзенне куплю, прыгожы абутак? А дзетак захочам нарадзіць, то як іх вырасціць, вывучыць? Не, маці, я жаніцца не буду ніколі. Хопіць, што сам мучаюся, то каб яшчэ і блізкіх людзей мучыў?

— Ну і дарэмна ты так. Вось Іра Совікава, што ў нашым магазіне працуе, удава з другога канца вёскі, неяк пыталася пра цябе, цікавілася, ці можна калі ў госці зайсці. Што ты на гэта скажаш?

— Не трэба! Няўжо ты не бачыш, што я ўжо ажаніўся з бутэлькай? З ёй і буду жыць. Нікога мне не трэба!

Бабуля Марыя выйшла ў сені і дала волю слязам. Пры Дзіму яна ніколі не плакала, бо ён надта блізка да сэрца прымаў яе мацярынскія пакуты. За напускной грубасцю хаваў сваю пяшчоту і чуллівую душу. І ад гэтага ёй было яшчэ цяжэй.

Кузьміцкія ледзь зводзілі канцы з канцамі. Уласна кажучы, пенсія Дзімы ішла на прапой. Іншы месяц яшчэ і не хапала, і ён прасіў у маці:

— Дай на бутэльку гарэлкі. Ты ж ужо атрымала свае паўтара мільёна.

— А жыць за што будзем? Ежу трэба купляць, балон газу заказаць, бо ўжо канчаецца. Боты табе хачу купіць, бо старыя ж парваліся. А брыкету ды дроў на зіму трэба прыдбаць? Не думаеш ты пра жыццё, Дзіма...

Такія размовы ў іх адбываліся часта. Дзіма злавесна маўчаў, і старая маці вельмі баялася, каб гэтае маўчанне не вылілася ў непапраўную бяду, каб ён не зрабіў што з сабой. Падумаўшы, сама ішла ў магазін па гарэлку, налівала яму чарачку. І, гледзячы, як пасля выпітага ў сына святлее твар і дабрэйшымі робяцца вочы, яна, звыклая да пакутаў і зусім не злосная, у адчаі шаптала:

— Каб вы ў труне перавярнуліся, тыя, хто пасылаў нашых бедных дзяцей на чужую зямлю аддаваць той інтэрнацыянальны доўг, на крывавую бойню! Сын пакутуе ад болю, потым будзе пакутаваць яшчэ і ад пахмелля.

І з яе змучаных вачэй каціліся горкія слёзы, можа, больш горкія, чым гарэлка, якую піў яе няшчасны сын...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*

БЕЗ КОММЕНТАРИЕВ

## *Разобрались*

Отправляю вам переписку с Воложинским райисполкомом по поводу удушения белорусской деревни. За несколько лет в нашей деревне Брильки закрыли школу, детский сад, столовую, библиотеку, теперь собираются закрыть почту. Вот об этом я им и писала. А у них все хорошо.

**Светлана Федоровна ЖУРАВЕЛЬ.**

*д.Брильки Воложинского района.*



ВАЛОЖЫНСКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
[illegible]

ВОЛОЖИНСКИЙ РАЙОННЫЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
[illegible]

[illegible]
На № ____

Журавель С.Ф.
д. Брильки
ул. Мира, 80

На ваше обращение, поступившее 15.07.2013 года, Воложинский районный исполнительный комитет сообщает, что отделение почтовой связи Брильки расположено в населенном пункте, не являющимся центральной усадьбой сельхозорганизации и административным центром. Численность обслуживаемого населения по состоянию на 01.01.2013 года 664 человека или 94,2% к уровню прошлого года. Кроме того, удаленность отделения связи от г. Воложина не более 3 км.

После закрытия ОПС Брильки населенные пункты будут переданы на обслуживание отделению связи Воложин–1, по населенным пунктам частота доставки почты останется неизменной: один раз в день, пять дней в неделю. Выполнение социального стандарта будет обеспечено. Оказание всех видов почтовых и непрофильных услуг, будет осуществляться почтальоном на дому и в ОПС Воложин -1, которое работает без выходных и перерыва на обед. Предположительно ОПС Брильки планируется присоединить к ОПС Воложин – 1 с 1 октября 2013 года.

Заместитель председателя
Воложинского райисполкома П.И. Бибик

З ПІСЬМА

## *Не разумею...*

Прачытала прызнанне кіраўнікоў Вялікага тэатра, што, каб тэатр выйшаў на самаакупнасць, білеты павінны каштаваць ад 100 еўра і вышэй.

Нічога не разумею! Гэта ж узровень цэн самых дарагіх тэатраў Еўропы, у якіх выступаюць зоркі сусветнай велічыні.

Ці выступаюць у нас такія зоркі? Ці такія ў нашых артыстаў зарплаты і ганарары? Дык адкуль жа могуць узяцца такія цэны на білеты?

**Святлана ЧАЙКО.**

*Мінск.*

Сяргей НАВУМЧЫК

# Дзевяноста першы

## Дні, якія стварылі краіну

*(Працяг. Пачатак у №№61, 63, 65, 67, 69.)*

### «Патрэбны поўны і рэальны, а не дэклараваны суверэнітэт»

Прасоўванне нашых патрабаванняў у парадак дня ішло вельмі цяжка, але мы разумелі, што яшчэ больш складана будзе дамагчыся патрэбных для нас вынікаў галасавання.

Для выступленняў у спрэчках запісалася некалькі дзясяткаў дэпутатаў, але ўдалося выступіць толькі палове. Мы, дэпутаты БНФ, засяроджваліся на трох галоўных тэмах: адстаўка Прэзідыума на чале з Дземянцеем, забарона КПСС і абвяшчэнне незалежнасці.

Камуністычныя сакратары спрабавалі давесці, што кампартыя — чыстая, што яна не падтрымала путч.

Праблема палягала ў тым, што, з аднаго боку, мы павінны былі даказаць антыканстытуцыйнасць пазіцыі кіраўніцтва Вярхоўнага Савета і ЦК КПБ, а з другога — іх, камуністаў, галасамі атрымаць перамогу. Нашых галасоў для перамогі не хапала — нават з улікам даволі значнай у тыя два дні падтрымкі так званых "нейтральных дэпутатаў".

Што рабіць, як будаваць свае выступленні?

Весці з камуністамі гульню? Прасіць іх? Мы ніколі гэтага не рабілі, а падзеі жнівеньскага путчу ўвогуле паставілі кампартыю па-за законам. Варыянт быў адзін — паказаць палітычнае і маральнае банкруцтва камуністычнага кіраўніцтва, не пакінуць кампартыі шанцу ўтрымаць ранейшыя кіроўныя пазіцыі (а лепей увогуле спыніць яе існаванне) — і разам з тым паказаць выйсце: адмоўцеся ад заганнай ідэалогіі і далучайцеся да будаўніцтва незалежнай Беларусі.

Падзеі паказалі, што абраная тактыка была слушнай.

За больш як год існавання Вярхоўнага Савета 12-га скліканія дэбаты ўпершыню дасягнулі такой эмацыйнай напружанасці.

Дземянцей пачаў сваё выступленне ўпэўнена: маўляў, у Беларусі ўсё было паводле Канстытуцыі, не былі забаронены мітынгі, не прыпынялася дзейнасць ніводнай грамадскай структуры. Потым паскардзіўся, што дэпутаты Апазіцыі БНФ распаўсюджваюць "хлуслівыя абвінавачанні на адрас Прэзідыума Вярхоўнага Савета, яго старшыні". Гэтаму, паводле ягоных слоў, папярэднічалі "падтасоўкі, бястактнасць, бесцырымоннасць і хамства" — што ўжо датычыла персанальна нас з Пазьняком. Дземянцей паскардзіўся, што ад нас яму і членам дэлегацыі на падпісанне саюзнай дамовы давялося вытрымаць "пагрозы і шантаж". Скончыў старшыня сваё выступленне заклікам прыняць новую Канстытуцыю.

Далей пачаліся спрэчкі.

***Альфонс Цішкевіч, старшыня Мінскага аблвыканкама:*** "Сёння ясна бачна, што той-сёй хоча скарыстаць перамогу дэмакратыі ў сваіх мэтах, вельмі далёкіх ад сапраўдных інтарэсаў нашага грамадства, беларускага народа. Мы шукаем ворагаў там, дзе іх няма і не было. Я катэгарычна пярэчу супраць развязвання ў рэспубліцы антыкамуністычнай істэрыі... Але ж усё часцей вылучаюцца патрабаванні абвясціць "крыжовы паход" супраць камуністычнай партыі ў цэлым. Раздаюцца заклікі распраўляцца з камуністамі".

***Анатоль Кастэнка, генерал-палкоўнік, камандуючы Беларускай вайсковай акругай:*** "Паверце, я вам сёння павінен сумленна сказаць, што цяжка было скідваць з сябе путы падпарадкавання, якія панавалі ў гэтай сістэме. Хай мы не ўзняліся адкрыта, не расчахлілі зброю і не павярнулі танкі на ўсход (*а няблага было б — танкі з Беларусі рушылі на Маскву скідваць ГКЧП. —* **С.Н.**). Але ўсё роўна гэта таксама была наша пазіцыя. Вытрымка і разважлівасць беларускага народа, працоўны рытм гарадоў і вёсак, прадпрыемстваў і калгасаў умацавалі сітуацыю. Путч захлынуўся там, дзе ён пачаўся, і эскалацыя яго была выключана і не дапушчана. Я перакананы, што ў рэспубліцы павінна быць свая нацыянальная гвардыя. Арганізацыйныя формы могуць быць розныя. Гэта значыць у складзе акругі, звязаныя з пытаннямі арганізацыі баявой і прафесійнай падрыхтоўкі, падпарадкавання яны могуць быць іншага альбо падвойнага. Ва ўсіх выпадках тады можна будзе запабегчы пагрозе дыктату. Я перакананы ў тым, што важныя вайсковыя кадры павінны прызначацца з санкцыі рэспублікі (*І толькі. Пра сваё Беларускае войска ні слова. —* **С.Н.**)".

***Генадзь Майсееў:*** "Мікалай Іванавіч (Дземянцей), як можна было сядзець тры дні, маючы ўрадавую сувязь, маючы ўсе магчымасці, маючы персанальны самалёт? Можа, не персанальны, але ва ўсялякім разе самалётам вы былі забяспечаны. Практычна вы кінулі свайго кіраўніка (*Гарбачова. —* **С.Н.**), не валодаючы сітуацыяй. А заява, якая была зроблена Прэзідыумам Вярхоўнага Савета рэспублікі? Ледзь не сказана: маўляў, мы працуем у галіне сельскай гаспадаркі, вырошчваем і збіраем хлеб для хунты. Для рэспублікі і хунты. Прапаную канкрэтна і прашу запісаць: дэпартызацыя ўсіх структур рэспублікі, нацыяналізацыя будынка ЦК КПБ, Дома палітасветы і ўсёй маёмасці, размеркаванне гэтай маёмасці пэўнай камісіяй паміж усімі партыямі, якія сёння будуць афіцыйна зарэгістраваны..."

***Анатоль Андрэеў, народны дэпутат СССР, старшыня арганізацыі ветэранаў:*** "Рэспубліканская арганізацыя цвёрда стаіць на пазіцыі кансалідацыі ўсіх прагрэсіўных сіл, прагрэсу эканомікі на падставе рацыянальнага спалучэння ўсіх формаў уласнасці. (*Насамрэч дэпутаты-ветэраны заўсёды галасавалі супраць прыватнай уласнасці на зямлю. —* **С.Н.**)".

***Міхаіл Сукач:*** "ЦК КПБ падтрымаў курс захопу ўлады неканстытуцыйным шляхам... Асабліва будзе злачынна, калі мы не вырашым пытанне пра дэпартызацыю праваахоўных органаў".

***Віктар Ганчар:*** "Крызіс паказаў, што партыя, і ў прыватнасці КПБ як структурнае падраздзяленне КПСС, з'яўляецца магутнай дзяржаўнай структурай, якой належыць усё: і праваахоўныя органы, і войска, і сродкі масавай інфармацыі. Калі неадкладна на гэтай сесіі не прыняць рашэння аб дэпартызацыі, пачнецца ўнізе масавы стыхійны пратэст. Гэта рэальнасць".

***Барыс Гюнтэр (Апазіцыя БНФ):*** "Звярніце ўвагу на "Советскую Белоруссию", орган ЦК КПБ. 22 жніўня. Хунта арыштавана, але "Советская Белоруссия" дае матэрыялы, пратакол нумар 3 ды іншыя дакументы гэтай хунты. Гэта зрабіла і газета "Звязда"... Гомельскі гарсавет 20 жніўня на сваім пасяджэнні адмежаваўся ад хунты і абвясціў, што законы, указы хунты не дзейнічаюць на тэрыторыі Гомеля. Што робіць народны дэпутат Вайцянкоў, старшыня аблвыканкама? Ён сваім рашэннем прэзідыума скасоўвае рашэнне гарсавета і падтрымлівае хунту. Прычым спасылаецца на Гомельскага пракурора Трубачкіна..."

***Антон Зеляноўскі, сакратар ЦК КПБ, народны дэпутат СССР:*** "Антыкамуністычны псіхоз, учынены сёння парламенцкай Апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце нашай рэспублікі, назваць дэмакратыяй ніяк нельга. Гэтак жа, як нельга назваць дэмакратыяй і тое, што сёння адбываецца на плошчы імя Леніна. Гэта ахлакратыя, улада натоўпу. Ідзе адкрыты псіхалагічны тэрор супраць камуністаў, абразы і нават фізічны гвалт. У перапынку сесіі натоўпам на плошчы быў абражаны, прыніжаны і падвергнуты фізічнаму гвалту народны дэпутат БССР, сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Ціхіня Валерый Гур'евіч, які вымушаны быў звярнуцца па хуткую дапамогу ў паліклініку... Што датычыць пытання нацыяналізацыі маёмасці КПБ, дык гэта відавочна супрацьзаконная акцыя..."

***Сяргей Папкоў (Апазіцыя БНФ):*** "Я пратэстую супраць прадастаўлення слова арганізацыі, якая практычна фарміравала тут путч у рэспубліцы... Трэба забараніць гэтай арганізацыі, членам бюро ЦК і ЦК КПБ выступаць з гэтай трыбуны".

***Сяргей Навумчык (Апазіцыя БНФ):*** "Лічу абавязковым удакладніць тую інфармацыю, якую зрабіў тут вам і народу рэспублікі, які слухае трансляцыю, сакратар ЦК Зеляноўскі. Наколькі мне вядома, падчас перапынку да Валерыя Гур'евіча Ціхіні не было зроблена ніякіх спроб фізічнага ўздзеяння. Адзінае, што ён быў ачэплены колам і апляваны ў літаральным сэнсе. Дарэчы, актыўны ўдзел у вызваленні Ціхіні з гэтага кола прыняў Яўген Міхайлавіч Глушкевіч...

Вы, таварышы камуністы, кажаце, што кампартыя не падтрымала путчыстаў. Выбачайце, вось газета чэрвеньская, вось бюро райкама партыі, вось — "Пастанова нумар адзін Дзяржаўнага камітэта па надзвычайным становішчы абавязана стаць праграмай дзеянняў кожнага грамадзяніна. У сувязі з гэтым з новай актыўнасцю павінна ўзяцца за работу раённая кантрольная камісія, раённая партарганізацыя, рабочы кантроль, пракуратура, усе прававыя органы".

І вось ваша, спадар Малафееў, ваша, спадар Зеляноўскі, ваша, спадар Ціхіня, ваша, спадар Камай, заява Бюро ЦК. Дык што, не падтрымала партыя? Падтрымала. І я думаю, што члены Прэзідыума таму менавіта вялі такую палітыку, што яны глядзелі ў рот ЦК, як яны глядзелі, у сваёй большасці, цэлы год. Гэта першае.

Другое. Вось вы ставіце сабе ў заслугу, што заклікалі да спакою. А ўявіце, калі б Хасбулатаў, калі б Ельцын, калі б Сілаеў таксама заклікалі да спакою, калі б не было гэтых пікетаў і барыкад на вуліцах Масквы, калі б не было энергічных дзеянняў расійскіх дэпутатаў, дзе былі б мы з вамі?! Вы, можа, і сядзелі б у зале, а мы, відаць, сядзелі б у іншым месцы. А што было б з народам — пра гэта цяжка думаць. А таму тое патрабаванне нацыяналізацыі маёмасці і спынення дзейнасці Кампартыі Беларусі, якое выстаўляе тут Апазіцыя, гэта не толькі патрабаванне Апазіцыі — гэта патрабаванне народа. Вам можна цяпер прад'явіць дзясяткі, сотні тэлеграм, дзе дзясяткі тысяч подпісаў. Давайце не будзем аплёўваць адзін аднаго ў прамым і пераносным сэнсе, давайце канстытуцыйным шляхам вырашаць гэтыя пытанні. Бо, калі мы цяпер гэтага не зробім, зробіць за нас народ, але вось не вельмі культурна... Народ высновы зрабіў, але, відаць, мы тут высновы не зробім, таму правільна адзінае нармальнае выйсце з гэтай сітуацыі — гэта роспуск гэтага Вярхоўнага Савета, дэпартызацыя ўсіх структур і новыя выбары. Інакш народ наш будзе каціцца ў бездань".

Адразу пасля майго выступлення Пазьняк рабіў даклад ад імя Апазіцыі БНФ з палітычнай ацэнкай сітуацыі.

***Зянон Пазьняк:*** "Якія высновы можна зрабіць з мінулых падзей? Перш за ўсё, гэта быў замах на нашу народную чалавечую і нацыянальную годнасць. Наша дзяржава Беларусь апынулася безабароннай перад крымінальным аблічам хунты, нам не было чым бараніць свой суверэнітэт і свой шлях да свабоды. Пакуль Беларусь не будзе мець сродкаў для абароны свайго народа, сваёй дзяржавы — ні пра якую свабоду і ні пра які суверэнітэт не можа быць і гаворкі. З намі ніколі не будуць лічыцца ні таталітарызм, ні таталітарны і агрэсіўны Савецкі Саюз, ні маладая імперская Расія, што адраджаецца ў форме дэмакратыі, ні ўсходняя мафія, ні ўсялякая крымінальная група: ці то капээсэсаўскі АМОН, ці то камуністычная хунта.

Беларусі трэба Беларускае нацыянальнае войска, дзяржаўная сістэма нацыянальнай бяспекі, структура аховы краю і грамадства. Беларусі патрэбны поўны і рэальны, а не дэклараваны суверэнітэт. І першым крокам да яго павінна стаць неадкладнае наданне Дэкларацыі аб дзяржаўнай незалежнасці Беларускай ССР статусу канстытуцыйнага закона.

КПБ не мае ніякага юрыдычнага і маральнага права на існаванне. Яна павінна быць зачынена і распушчана. Павінна адбыцца дэпартызацыя і дэкамунізацыя вытворчасці і ўсіх устаноў рэспублікі. Павінна быць нацыяналізавана ўся маёмасць КПБ-КПСС, нарабаваная ў народа. Усе камуністычныя газеты, якія дэзінфармавалі людзей і друкавалі матэрыялы ў падтрымку перавароту, павінны быць перазрэгістраваны і пераведзены ў стан незалежных газет. Беларусь не павінна падпісваць Саюзны дагавор, а аб'явіць пра сваю незалежнасць і прыступіць да стварэння нацыянальнага войска і іншых органаў абароны суверэнітэту рэспублікі.

Зацяжны крызіс заканадаўчай улады можа быць вырашаны толькі шляхам дачаснага роспуску Вярхоўнага Савета БССР і правядзення новых выбараў у прафесійны парламент на шматпартыйнай аснове і аснове дэмакратычнага закона. Толькі ў вольнай і незалежнай некамуністычнай дэмакратычнай Беларусі можа знайсці сваё шчасце і свабоду беларускі народ. Дэпутаты Апазіцыі БНФ лічаць, што старшыня Вярхоўнага Савета таварыш Дземянцей, які падтрымаў ГКЧП, не можа знаходзіцца на сваёй пасадзе... Выступленне спадара Дземянцея, якое мы тут праслухалі, — гэта ўзор цынізму і дэмагогіі... Адбываецца глумленне над народным сэнсам, над народам, над будучыняй нашай рэспублікі, і сядзіць спадар Дземянцей, і кіруе гэтым пасяджэннем, і ўхмыляецца. Што, вам весела? Над чым тут весяліцца?

Я лічу, што, улічваючы, як ідзе гэтая сесія, ніякага канструктыўнага рашэння вынесена тут не будзе. Камуністычная большасць вядзе сесію да зрыву, да забалбатання яе і непрыняцця ніякіх рэальных пастаноў. Таму я вымушаны звярнуцца да людзей Беларусі — улічваць, якая сітуацыя складаецца ў нас, і рыхтавацца да ўсеагульнай беларускай забастоўкі. (*Тут Пазьняк скарыстаў наяўнасць прамой радыётрансляцыі. —* **С.Н.**). Толькі такім метадам — шляхам грамадскага непадпарадкавання — мы можам дасягнуць нашай мэты. І трэба памятаць, што ўсе дзеянні народа, накіраваныя на падтрымку Канстытуцыі, на падтрымку дэмакратыі, накіраваныя супраць саўдзельнікаў у дзяржаўным пераварoце, з'яўляюцца законнымі і яны апраўданы. Таму я прашу перадаць па ўсіх прадпрыемствах, па ўсіх страйкамах, па ўсіх вытворчасцях — рыхтавацца да ўсеагульнай забастоўкі супраць саўдзельнікаў у злачынстве. Жыве Беларусь!"





### 1-га сакратара ЦК КПБ пагналі з трыбуны

Увечары 24 жніўня стала вядома, што Гарбачоў зняў з сябе абавязкі генеральнага сакратара ЦК КПСС; на дзень раней у Маскве прэзідэнт РСФСР Барыс Ельцын падпісаў указ аб прыпыненні дзейнасці КПСС на тэрыторыі Расіі. Фактычна беларускія камуністы апынуліся без гаспадароў, і ў Авальнай зале камуністы-дэпутаты загаварылі, што КПБ будзе самастойнай, а Беларусь стане суверэннай дзяржавай. Узнікала небяспека ператварэння рэспублікі ў камуністычны запаведнік. Тым больш важным было дамагчыся спынення дзейнасці кампартыі.

А шостай раніцы 25 жніўня над віцебскай ратушай беларускія патрыёты ўзнялі бел-чырвона-белы сцяг.

Дзве падзеі пераламалі ход сесіі на нашу карысць: выштурхоўванне з трыбуны першага сакратара ЦК кампартыі Анатоля Малафеева і прамова Пазьняка з заклікам да камуністаў прагаласаваць за незалежнасць.

Малафееў падтрымаў ГКЧП і, нават калі кіраўніцтва ЦК КПСС асудзіла путчыстаў (ужо пасля іх правалу), выказваўся ў падтрымку хунты. Ён не быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, але быў народным дэпутатам СССР і таму, паводле рэгламэнту, меў права на выступленне. У нейкі момант, калі абвінавачванні ў бок камуністаў з вуснаў дэмакратычных дэпутатаў дасягнулі, як яму падалося, гранічнай мяжы, ён устаў з "урадавага сектара", па-камандзірску даў пальцам знак Дземянцею (маўляў, зараз буду выступаць) і пайшоў да цэнтральнай трыбуны.

Малафееў ішоў як гаспадар — павольна, з адчуваннем уласнай перавагі.

Але не дайшоў.

Першай на трыбуне апынулася Галіна Сямдзянава і загарадзіла сабой мікрафон. Мы паўскоквалі з месцаў — Яўген Глушкевіч, Ігар Гермянчук, Павел Холад, Віктар Ганчар, Валянцін Голубеў, Іван Герасюк, Мікалай Крыжаноўскі — і атачылі Малафеева, пачалі крычаць яму ў твар: "Пайшоў вон!" Памятаю, цяжка было стрымацца, каб не схапіць яго за каўнер, але — стрымаліся, запас нерваў усё ж заставаўся і пасля бяссонных начэй.

Дарэчы, гэты эпізод зафіксаваны не толькі фатографамі, але і кінааператарам, ён патрапіў у фільм Юрыя Гарулёва і Аляксандра Лукашука "Дэпутаты", і ўжо праз некалькі гадоў я ўбачыў тое, што не заўважыў тады. Лукашэнка мітусіўся паміж трыбунай і Дземянцеем, спрабуючы ўгаварыць Сямдзянаву пусціць Малафеева на трыбуну, — гэта вельмі добра бачна ў фільме.

(За колькі месяцаў да гэтага Лукашэнка, стварыўшы фракцыю "Камуністы за дэмакратыю", жорстка дыскутаваў з Малафеевым і абвінавачваў яго ў аўтарытарызме ды непрыманні іншых поглядаў. Пройдзе час, і прэзідэнт Лукашэнка прызначыць Малафеева кіраўніком свайго "сената".)

Малафееў быў вымушаны пайсці з трыбуны на сваё месца. І гэта псіхалагічна зламала камуністаў: усёмагутны першы сакратар, валадар лёсаў, быў сагнаны, фізічна адпрэчаны палітычнымі праціўнікамі. Такога сцены Авальнай залы не бачылі.

Разгублены Дземянцей абвяшчае перапынак на паўгадзіны, які, аднак, зацягваецца нашмат даўжэй. У перапынку ён "раіцца з таварышамі", але таварышы камуністы дэмаралізаваны. Тыя члены Прэзідыума ВС, якія здольныя адэкватна ацаніць сітуацыю, раяць яму выканаць патрабаванне аб адстаўцы.

Пасля перапынку Дземянцей заяўляе, што сыходзіць у адстаўку.

Шушкевіч дзякуе Дземянцею "за работу на пасадзе старшыні" і кажа гэтулькі шмат добрых слоў, колькі мы, дэпутаты БНФ, на свой адрас ад яго ніколі не чулі (і не пачуем). Але знаходзяцца словы і для нас — у звязку з выгнаннем з трыбуны першага сакратара ЦК КПБ.

***Станіслаў Шушкевіч:*** "Мне сорамна за тое, што адбылося ў нас у зале Вярхоўнага Савета! Нідзе, нават на Нюрнбергскім працэсе, не было такога, каб той, каго абвінавачваюць, каго падазраюць, не меў слова. Я быў сведкам той з'явы, што народны дэпутат СССР не змог выступіць на трыбуне. Мы не можам ісці такім шляхам, як бы мы да каго ні ставіліся..."

Адметна, што, калі Дземянцей выключаў мікрафоны праціўнікам камуністаў — дэпутатам Апазіцыі БНФ, Шушкевіч ніколі не заступіўся і не выказаўся на карысць магчымасці народных дэпутатаў "выступіць на трыбуне". Пазней ужо ён сам адключаў нам мікрафоны.

Пазней у шмат якіх крыніцах і нават даведніках напішуць, што на сесіі Шушкевіч быў абраны старшынёй ВС. Гэта не так — старшынёй ён быў абраны на наступнай сесіі, 18 верасня. Але пасля адстаўкі Дземянцея ён фактычна быў спікерам Вярхоўнага Савета — вёў сесіі і падпісваў дакументы.

Шушкевіч прапанаваў "з канстытуцыйных пазіцый спакойна правесці сесію і закончыць яе". "Павінна быць дадзена ацэнка дзейнасці Прэзідыума Вярхоўнага Савета, які не выканаў сваіх канстытуцыйных абавязкаў. Сесію закрываць сёння так, як вы хочаце, нельга", — пераконваў Валянцін Голубеў.

Слова бярэ ***дэпутат Апазіцыі БНФ Вольга Галубовіч***: "Вам, Станіслаў Станіслававіч, сорамна за нас, народных дэпутатаў, за тое, што мы не далі магчымасці гаварыць з самай высокай народнай трыбуны чалавеку. Лідару партыі, якая была ідэйным натхняльнікам антыдзяржаўнага перавароту, якая хацела знішчыць свайго генеральнага сакратара. А мне, паважаны Станіслаў Станіслававіч, было горка і балюча за тое, што ўчора, калі Расія стаяла над трунамі ахвяр антыдзяржаўнага перавароту, у гэтай самай высокай зале рэспублікі што было? Падман і спроба завуаляваць сваю злачынную бяздзейнасць".

Шушкевіч пачаў апраўдваць Прэзідыум, адстаўкі якога мы настойліва патрабавалі. І першае, што ён зрабіў пасля таго, як абвясціў, што бярэцца выконваць функцыі старшыні, даў слова Малафееву.

Мы на знак пратэсту падчас выступу Малафеева пакінулі залу, хаця здагадваліся, што Малафееў пачне адступаць. Так яно і сталася: у фае праз трансляцыю чулі, што першы сакратар, як раней і ягоныя калегі з ЦК, спрабаваў давесці, нібыта КПБ не падтрымлівала путчыстаў і КПБ выходзіць з КПСС, і нават сказаў пра "дэмакратычную свабодную Беларусь". Мы разумелі, што гэта — не болей чым фарысейства, спроба ўратаваць партыю, якая канчаткова збанкрутавала.

Наменклатура ў Авальнай зале зразумела, што Малафееў капітулюе і ўжо не валодае сітуацыяй. Фактычна камуністы страцілі лідара, а разам з ім — і волю да барацьбы. Іншага выйсця, як прымаць прапановы Апазіцыі БНФ, у іх не было.

Для нас гэта азначала адно — выкарыстаць яшчэ большы націск, каб дамагчыся надання Дэкларацыі аб суверэнітэце канстытуцыйнага статусу. Але мы зноў сустрэлі супраціў з боку цяпер ужо выканаўцы абавязкаў старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча. Нават тады, калі некаторыя члены Прэзідыума (напрыклад, старшыня "аграрнай" камісіі Уладзімір Гаркун) загаварылі пра суверэнітэт, Шушкевіч праціві́ўся ўключэнню пытання аб канстытуцыйным статусе Дэкларацыі ў парадак дня.

У перапынках мы збіраемся ў нашым 363-м пакоі і карэкціруем тактыку.

У нейкі момант каля дзвярэй з'явіўся Вячаслаў Кебіч. "Я падаю ў адстаўку", — каротка сказаў прэм'ер-міністр. Чаму Кебіч пайшоў паведаміць пра гэта нам? Наколькі сур'ёзным быў ягоны намер? Я ніколі ў яго пра гэта не распытваў, а ў сваіх даволі аб'ёмістых мемуарах Вячаслаў Францавіч абышоў гэты эпізод. Думаю, што тут быў элемент гульні, а магчыма, ён хацеў нейкіх дамоўленасцяў з Апазіцыяй БНФ. Але размовы не атрымалася: Кебіча адразу ўзяў пад рукі касманаўт Уладзімір Кавалёнак, палітычная арбіта якога ў тыя дні круцілася вакол БНФ. Касманаўт павёў прэм'ера па доўгім калідоры трэцяга паверха і пачаў угаворваць: "Вячаслаў Францавіч, ні ў якім разе, што ж будзе з эканомікай, вы спецыяліст" — і гэтак далей. Тых слоў Кебічу хапіла, каб перадумаць; значыць, і не было ў яго сур'ёзнага намеру сыходзіць, проста прамацваў глебу. Зрэшты, праз некалькі гадзін пасля свайго тэатральнага дэмаршу Кебіч падтрымаў Пазьняка, і з улікам ягонага аўтарытэту ў наменклатуры гэтая падтрымка станоўча паўплывала на вынік галасавання аб наданні Дэкларацыі канстытуцыйнай сілы.

Наша тактыка пачынала даваць плён, які высвечваўся на табло вынікаў галасавання.

Прымаецца пастанова з асуджэннем дзеянняў ГКЧП. Ствараецца камісія па ацэнцы дзеянняў службовых асоб і ўстаноў у дні путчу на чале з дэпутатам Апазіцыі БНФ палкоўнікам міліцыі Ігарам Пырхам, прымаецца рашэнне аб дэпартызацыі. Нарэшце, дэпутаты пагаджаюцца ўзяць за аснову наш праект пастановы аб забароне дзейнасці КПБ-КПСС на тэрыторыі Беларусі: 185 галасоў пры патрэбных 174.

Усяго за пастанову прагаласуе 212 дэпутатаў.

### «Суверэнітэт дасць нам магчымасць стаць свабоднымі і незалежнымі»

Станіслаў Шушкевіч пераходзіць да пытання аб незалежнасці: "У нас ёсць праект пастановы "Аб наданні статусу канстытуцыйнага закона Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце". Вы захоўваеце гэтую прапанову? (*Маецца на ўвазе Апазіцыя БНФ. Натуральна ж, мы захоўвалі яе: гэта было галоўнае, дзеля чаго мы патрабавалі склікаць пазачарговую сесію. —* **С.Н.**). Вы ведаеце, канстытуцыйная большасць патрэбна нам. Я хацеў бы звярнуць вашу ўвагу, што вельмі цяжка гэтае пытанне нават пры самых станоўчых адносінах вырашыць".

Гэта была рэпліка, якую ні ў якім разе нельга было вымаўляць: пасля адстаўкі Дземянцея для значнай колькасці дэпутатаў Шушкевіч ужо ўспрымаўся "начальнікам", яны прызвычаіліся галасаваць так, як скажа начальнік, а тут — начальнік сумняваецца ў выніку галасавання. Дык, можа, і не варта галасаваць?

Апрача таго, перад гэтым выступіў дэпутат Аляксандр Лукашэнка, які ў суверэнітэце ўбачыў пагрозу ізаляцыі ад Расіі і ад Гарбачова. Як я ўжо адзначаў, Лукашэнка ўвогуле адмовіўся рэгістравацца і браць удзел у сесіі. Але пры гэтым пакінуў за сабой права выступаць: ішла прамая трансляцыя, тое, што адбывалася ў Авальнай зале, слухалі, без перабольшання, мільёны, і страціць магчымасць чарговы раз "засвяціцца" ён не хацеў. Дырэктар саўгаса "Гарадзец" узначальваў групу "Камуністы за дэмакратыю", і некалькі галасоў у нашу падтрымку маглі адпасці.

І вось тады ўзяў слова Пазьняк. Ён выступаў спантанна, без падрыхтоўкі, але гэта, я перакананы, была самая дзейсная прамова ў найноўшай гісторыі Беларусі. Калі сёння параўноўваць яе з іншымі прамовамі Пазьняка, можна знайсці значна больш аналітычныя, лепшыя паводле стылю і нават больш эмацыйныя. Але менавіта тая прамова, сказаная без падрыхтоўкі ад мікрафона, інтуітыўна, "на адным дыханні", самым непасрэдным чынам паўплывала на тое, што на мапе свету з'явілася новая краіна — Беларусь. Сказана яна была ў патрэбны момант і тымі словамі, якія толькі і маглі паўплываць на людзей, ад якіх увечары 25 жніўня 1991 года залежала, ці спраўдзіцца мара пакаленняў.

Прамаўляў Пазьняк у поўнай цішыні; я памятаю нейкае пашчоўкванне, калі адзін з апаратараў у другім канцы залы павярнуў сваю тэлекамеру.

Тую гістарычную прамову Зянона Пазьняка падам тут цалкам:

"Я хачу зрабіць некалькі заўваг па гэтым пытанні, паколькі тут у зале выступалі некаторыя дэпутаты, у прыватнасці, дэпутат Лукашэнка, які проста заблытаў гэтае пытанне.

Справа ў тым, шаноўныя калегі, што зараз мы ўступілі ў прынцыпова новую сітуацыю. Усе рэспублікі вакол нас аб'явілі аб сваёй нацыянальнай дзяржаўнай незалежнасці. У тым ліку ўчора гэта зрабіла Украіна. Практычна пытанне аб Саюзным дагаворы здымаецца на нейкі перыяд. Саюз існуе толькі намінальна. І калі ў гэтай сітуацыі мы не прымем адпаведнага закона аб дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, мы трапім у вельмі кепскае становішча. Таму што тыя рэспублікі, якія вакол нас, яны будуць развівацца, і развівацца як нацыянальныя дзяржавы на прынцыпова новай аснове. Яны ідуць да рынку, у іх будзе больш мабільная эканоміка, і мы трапім у непасрэдную залежнасць ад гэтых рэспублік. Тым больш, я ў сваім дакладзе гаварыў (а я дастаткова добра знаёмы з расійскай дэмакратыяй на працягу многіх гадоў) і з усёю адказнасцю магу сказаць, што на Усходзе ў нас фарміруецца маладая агрэсіўная імперыя ў форме дэмакратыі. Тыя дэмакраты, якіх мы добра ведаем, не прызнаюць фактычна нас як нацыю, яны не глядзяць на нас як на асобную дзяржаву і на асобную тэрыторыю, а глядзяць на нас як на вотчыну, на якую яны маюць пэўнае права.

На вялікі жаль, гэта так. І менавіта зыходзячы з гэтых меркаванняў я неаднойчы выказваўся і пісаў аб тым, што я сумняваюся ў дэмакратычным характары будучай Расіі. Таму што асноўны прынцып дэмакратыі — гэта прызнанне права нацыі на самавызначэнне. Калі ў грамадстве існуе імперская ментальнасць, дасягнуць дэмакратыі поўнасцю вельмі цяжка. І тыя высновы, якія мы можам зрабіць зараз, сутыкаючыся з палітыкай з Усходу, прыводзяць нас да думкі, што зараз нам, каб выратаваць наш народ, нашу эканоміку, абавязкова патрэбны дзяржаўны суверэнітэт. Тыя хуткія тэмпы, якімі зараз пойдуць развівацца дзяржавы, якія заснаваны на дзяржаўнай незалежнасці, яны прывядуць да таго, што іхняя эканоміка высмакча з нашай рэспублікі рабочую сілу, высмакча тавары. І калі ў нас не будзе сваёй валютнай сістэмы (а мы можам яе мець талькі тады, калі будзем мець нацыянальную незалежнасць), мы трапім у вельмі цяжкае эканамічнае і залежнае становішча. Ужо Расія некалькі тыдняў таму паведаміла, Ельцын паведаміў аб тым, што збіраецца павысіць цэны на нафту. Гэта быў у пэўнай ступені шантаж нашай рэспублікі. І ён быў не першы раз.

Калі мы не будзем мець дзяржаўнай незалежнасці, не зможам свае рэсурсы, усе свае сродкі, свае вынікі працы ўкладваць на дабро нашага народа і нашай дзяржавы, мы не зможам супрацьстаяць гэтай палітыцы. А яна будзе, і будзе абавязкова.

Мы ўступаем у новы стан дзяржаўных узаемаадносін. Таму, шаноўныя калегі, я вельмі вас прашу, паколькі палітычная абстаноўка змянілася рэзка і хутка і некаторыя з нас не паспелі яе адразу ацаніць, я заклікаю ўсіх дэпутатаў зараз ацаніць гэтую абстаноўку самым належным чынам. Таму што ўсякае замаруджванне пойдзе нам на шкоду.

Не трэба баяцца, што тут, як казалі некаторыя дэпутаты, узнікне Албанія, Куба, Карэя. Нічога падобнага. Працэсы, якія пайшлі ў нас, нават ход нашай сесіі пацвярджаюць: яны неабарачальныя, яны ідуць на карысць нашаму грамадству. А суверэнітэт дасць нам магчымасць стаць свабоднымі і незалежнымі, дасць нам магчымасць развіць тыя асновы, якія мы закладваем, ідучы да рэформаў. Я прашу вас паставіць гэтае пытанне і вырашыць яго сёння. Бо заўтра можа быць позна. Нас тут не вельмі многа, і патрэбна канстытуцыйная большасць. Таму я вырашыў выступіць перад вамі, і, можа, для некаторых было гэта нечаканым. Але я дастаткова добра ведаю, якія ўзаемаадносіны ў тых маладых структурах, якія зараз нараджаюцца. І калі мы спаткаемся з імі потым, не падрыхтаваўшыся, мы проста апынемся ў невырашальным стане. Дзякуй за ўвагу".

Пазьняк папрасіў камуністаў прагаласаваць за незалежнасць, але апеляваў не да беларускай гісторыі (гэта не спрацавала б), не да права нацыі мець сваю дзяржаву (яны не любілі слова "нацыя"), а да пачуцця самазахавання. Яны чакалі ад Пазьняка ўхваленняў пераможцы Ельцына, а лідар БНФ сказаў, што сумняваецца ў дэмакратычным характары будучай Расіі, што на ўсходзе фарміруецца новая імперыя.

*(Працяг на 8-й стар.)*

ХОККЕЙ

## *Беларусь играет с командой США*

*Международная федерация хоккея опубликовала расписание чемпионата мира по хоккею с шайбой, который пройдет в Минске с 9 по 25 мая 2014 года.*



78-й чемпионат мира по хоккею откроется матчем в группе “B” между сборной Беларуси (хозяевами чемпионата) и сборной США на 15-тысячной “Минск-Арене”. Чуть раньше в тот же день сыграют между собой сборные Швейцарии (серебряные медалисты ЧМ-2013) и России (чемпионы мира 2012 года).

Беларусь впервые будет принимать чемпионат мира по хоккею в элитном дивизионе.

До этого в 2010 году Беларусь принимала чемпионат мира ИИХФ среди юниоров (U-18), а в 2011-м — финал Континентального кубка ИИХФ, который прошел на “Минск-Арене”, являющейся родной площадкой клуба КХЛ “Динамо-Минск”.

В группе “А” на “Чижовка-Арене”, ввод в эксплуатацию которой запланирован на ноябрь 2013 года, в первый игровой день сыграют Франция—Канада и Словакия—Чехия.

Действующие чемпионы мира — сборная Швеции начнет защиту своего титула на следующий день игрой против сборной Дании.

56 игр предварительного раунда и четвертьфиналы будут сыграны на двух аренах, а вот полуфинальные матчи (24 мая) и матчи за медали (25 мая) пройдут исключительно на “Минск-Арене”.

Цены на билеты на одну игру будут варьироваться приблизительно от 6 до 50 евро — на матчи предварительного раунда, в то время как стоимость билетов на матчи финального раунда будет начинаться с 25 евро.

В продаже будут доступны билетные пакеты на игровой день, на матчи предварительного раунда, финального раунда, на все мероприятия в рамках одной из арен, а также пакеты вместе с проживанием и другими услугами (питание, экскурсии). Подробная информация на сайте www.minsk2014.com в разделах “Купить билет” и “Отели”.

Продажа билетов стартует в конце сентября. Обладатели билетов, а также все участники чемпионата мира по хоккею получают право на безвизовый въезд на территорию Беларуси в период с 25 апреля по 31 мая 2014 года.

УЛЫБНИТЕСЬ...

**— Батюшка, я не пью, не курю, мужу не изменяю, работаю… Скажите, я правильно живу?**

**— Правильно, дочь моя… Вот только зря…**

СМАЧНА ЕСЦІ!

# Адчуйце беларускую гісторыю на смак!

## *У мінскім выдавецтве «Харвест» выйшла ў свет першая беларуская кулінарная энцыклапедыя «Літоўская кухарка».*




Упершыню яна была выдадзена ў 1854 годзе па-польску і мела проста ашаламляльны поспех, таму потым шмат разоў перавыдавалася.

*“Некаторыя чытачы запытаюць: чаму ж кнігу пра беларускую кухню аўтар назвала “Літоўская кухарка”?* — напісана ва ўступным слове ад выдавецтва. — *Справа ў тым, што да XIX стагоддзя Беларусь называлі Літвой, бо нашы землі ўсё яшчэ ўспрымалі найперш як цэнтр Вялікага Княства Літоўскага. Вось адсюль і назва”.*

Пра аўтара кнігі, **Вінцэнту Завадскую**, вядома няммнога.

“*Паходзіла яна з дома Жалтоўскіх і была жонкай вядомага віленскага выдаўца Адама Завадскага*, — распавядаецца на першых старонках энцыклапедыі. — *Цікавы факт: у знакамітай кнізе Алены Малахавец “Подарок молодой хозяйке”, якая ўпершыню выйшла ў Расіі ў 1861 годзе, вялікія блокі рэцэптаў і нават цэлыя раздзелы ўзяты з кнігі В.Завадскай...*

*“Літоўская кухарка” — яшчэ і ўнікальны гістарычны дакумент. Цэлы свет нашых продкаў паўстае з рэцэптаў, сабраных аўтарам. Сярод іх — і экзатычныя, і простыя, і складаныя, і вытанчаныя, і паўсядзённыя.*

*Чытайце, гатуйце — і вы адчуеце нашу беларускую гісторыю на смак!”*

На першы погляд асобныя рэцэпты падаюцца зусім састарэлымі, а назвы прадуктаў — незразумелымі.

“*Некаторыя інгрэдыенты ці кулінарныя прыёмы сёння падаюцца экзатычнымі (напрыклад, сучасная гаспадыня можа не ведаць такія назвы страў і прадуктаў, як амарэткі, англійскі перац, лімонная соль і г.д.). Падобныя тэрміны тлумачацца ў кулінарным слоўніку на пачатку кнігі*, — звяртаюць увагу ўкладальнікі энцыклапедыі. — *У некаторых рэцэптах ёсць дробныя недакладнасці, напрыклад, у пераліку інгрэдыентаў адсутнічаюць прадукты, якія потым упамінаюцца ў тэксце рэцэптаў, не заўсёды даецца апісанне папярэдняй падрыхтоўкі прадуктаў (так, амаль ніколі не пазначаецца, што перад гатаваннем гародніну і садавіну трэба памыць, што з галоў рыбы трэба выбраць жабры, што сухія грыбы перад выкарыстаннем трэба вымачыць і добра вымыць і г.д.). У большасці такіх выпадкаў побач з рэцэптам даецца тлумачэнне перакладчыцы, якое дапаможа не зрабіць памылкі.* (Пераклад "Першай беларускай кулінарнай кнігі" з польскай мовы на беларускую зрабіла пісьменніца Наталка Бабіна. — **Рэд.**) *Падобныя тлумачэнні вынесены на плашку і выдзелены колерам. Таксама для зручнасці чытача пры перакладзе спасылкі аўтара ў рэцэптах, такія як “пададзеным вышэй спосабам”, “як апісана вышэй” і г.д., часта замяняліся непасрэднымі спасылкамі на канкрэтныя рэцэпты”.*

У першай беларускай кулінарнай энцыклапедыі прадстаўлены нацыянальныя беларускія стравы на любы густ — соусы, салаты і закускі, супы і дапаўненні да іх, мясныя і рыбныя стравы, выпечка і дысерты, напоі і варэнні.

“*Тут змешчаны рэцэпты як ужо вядомыя нейкім чынам многім гаспадыням — гэта калдуны, клёцкі, зразы, печаніна, амлеты, пончыкі, жэле, так і незаслужана забытыя стравы беларускіх (літоўскіх) магнатаў і старасвецкай народнай кухні: разнастайныя супы-пюрэ, бігасы і штуфады, мяса на пары і на ражне, фаршыраваная гародніна, птушка і рыба, запечаныя шынкі, каўбаскі і дзічына, розныя паштэты, руляды і валаваны, мельшпэйзы, шарлоткі і коксы, марозіва, граніта і марцыпаны, квасы і наліўкі*, — гаворыцца ў анатацыі да кнігі. — *Рэцэпты суправаджаюцца падрабязным апісаннем працэсу падрыхтоўкі і карыснымі парадамі наконт прымянення таго ці іншага прадукту і спосабу падачы стравы на стол”.*



ВОСЕНЬСКАЕ МЕНЮ

*Што сёння прыгатаваць на сняданак, абед ці вячэру? Гэтае пытанне літаральна кожны дзень круціцца ў галаве любой гаспадыні. Вось які набор страў прапаноўвае беларуская кулінарная энцыклапедыя.*

### Верасень

***У гэтым месяцы, як і ў два наступныя, менш яек, а таксама малака, бо каровы пачынаюць запускацца; у той жа час маем асеннюю гародніну, ялавічыну, бараніну, больш розных хатніх птушак, дзічыны, а таксама садавіны: яблыкаў, груш, сліў; у гэтую пару багацця прадуктаў лёгка зрабіць стол разнастайным.***

**Нядзеля.** Суп памідоравы. — Паляндвіца ва ўласным соку. — Капуста зялёная савойская. — Маладыя індыкі з бешамеллю. — Яблыкі ў французскім цесце.

**Панядзелак.** Суп лімонны. — Кавалак мяса з барановаі грудзінкі. — Шпінат. — Смажаніна з зайца. — Кампот са сліў.

**Аўторак.** Суп французскі белы празрысты. — Мяса са свежымі або сушанымі баравікамі. — Кваціістая капуста. — Качкі дзікія печаныя. — Торт яблычны.

**Серада.** Суп сельдэрэйны. — Зразы фаршыраваныя. — Штрудаль з капустай. — Смажаніна з курэй. — Дэсерт мармеладавы са свежых сліў.

**Чацвер.** Хлебны суп з віном. — Кавалак бараніны, прыгатаваны, як мяса казулі. — Штрудаль яблычны.

**Пятніца.** Суп з белай фасолі (puree). — Пірог рускі з фаршам з капусты. — Мельшпэйз завараны з яблыкаў.

**Субота.** Суп са шчаўя. — Бульба, фаршыраваная грыбамі. — Фаршываны шчупак з печы. — Андруты мерныя з узбітымі вяршкамі.

### Кастрычнік

***Гусі і качкі робяцца ўкормленымі і смачнымі, так што ў гэты час іх лепш за ўсё, адпаведна згатаваўшы, падаваць на стол.***

**Нядзеля.** Суп шэры выдатны. — Паляндвіца, запечаная ў паперы. — Капуста белакачанная з фаршам па-французску. — Смажаніна з качак. — Дэсерт з цэлых яблыкаў у пене.

**Панядзелак.** Суп з гусі або качкі. — Катлеты з ялавічыны. — Морква тушаная. — Цецярук печаны. — Кампот з яблыкаў.

**Аўторак.** Булён з курыцы, індыка альбо парасяці. — Страва з індыка, курыцы або парасяці з белым соусам. — Бручка фаршыраваная. — Гусь печаная з яблыкамі і падліўкай па-літоўску. — Пячэнне вяршковае.

**Серада.** Суп агурочны празрысты. — Кавалак мяса тушаны. — Гарошак зялёны. — Індык запечаны фаршыраваны. — Дэсерт з цэлых яблыкаў, запечаных у смятане.

**Чацвер.** Булён залацісты з гароднінай. — Зразы дасканалыя па-англійску з цыбулевым соусам. — Клубень італьянскі (тапінамбур). — Рабчыкі. — Яблыкі печаныя з соусам шадо.

**Пятніца.** Суп рыбны. — Рыба па-яўрэйску. — Капуста, фаршыраваная грыбным фаршам. — Дэсерт з яблыкаў з варэннем.

**Субота.** Суп агурковы забелены. — Гусь, печаная з яблыкамі. — Кальрабі фаршыраваная. — Дэсерт з рысу пад узбітымі вяршкамі.

### Лістапад

***Як і ў снежні, можна дастаць добрую дзічыну і тлустую свініну, бо такой парой звычайна забіваюць вепрукоў, таму розныя хрушчы, пончыкі і іншая выпечка на тлушчы можа часта быць на стале.***

**Нядзеля.** Суп-пюрэ з зайца. — Гусь з італьянскай макаронай. — Морква з сухім гарохам. — Смажаніна з каплуна. — Хрушчы міндальныя.

**Панядзелак.** Суп лімонны. — Кавалак мяса румяны з моцным соусам. — Капуста чырвонакачанная тушаная. — Гусь печаная. — Пончыкі заварныя без дражджэй.

**Аўторак.** Калдуны тышкевіцкія. — Булён з курыцы. — Гарошак зялёны. — Цецярук печаны. — Жэле з сунічнага, малінавага або парэчкавага соку.

**Серада.** Суп з гусі. — Мяса, перакладзенае хрэнам. — Бручка, абсыпаная сухарыкамі. — Заяц печаны са смятанай. — Крэм яблычны.

**Чацвер.** Суп французскі белы празрысты. — Страва з качкі з капустай. — Мельшпэйз шакаладны, завараны на каве. — Індык з рысам па-французску. — Мус пуншавы.

**Пятніца.** Капуста кіслая з грыбамі і смятанай. — Суп з ментузоў посны. — Шчупак з румяным соусам. — Сялява. — Наліснікі крохкія з соусам шадо.

**Субота.** Суп з памідораў. — Кавалак мяса з маласольнымі агуркамі. — Капуста фаршыраваная. — Яблыкі, фаршыраваныя міндалём, з соусам шадо.

НА ЗАМЕТКУ!

***Вось толькі некаторыя рэцэпты з таўсценнай кулінарнай энцыклапедыі, якія падаліся нам цікавымі.***

### Суп французскі белы празрысты

*1,25 кг ялавічыны, 0,5 курыцы, 2 цыбуліны, 2 морквіны, 1 корань пятрушкі, 0,5 караняплода сельдэрэю, 1 парэй, 5 зярнятак англійскага перцу, 3 лаўровыя лісты, 2 бялкі, 0,5 шклянкі белага віна, соль.*

Ялавічыну і курыцу пакласці ў каструлю, заліць вадой і паставіць на агонь варыць. Дадаць зеляніну і карэнні, то бок: парэй, сельдэрэй, пятрушку, цыбулю, англійскі перац і лаўровы ліст, хай варацца разам на невялікім агні; пасаліць булён; калі мяса стане мяккім, а булён выпарыцца на адну трэць, зліць булён у іншую каструлю, сабраць з яго тлушч і астудзіць.

Узбіць з невялікай колькасцю вады два бялкі, дадаць іх у булён і даць закіпець на лёгкім агні, каб булён ачысціўся. Ачышчаны булён працадзіць праз сурвэтку.

У гэты суп можна ўліць шклянку белага віна, якое папярэдне можна давесці да кіпення з невялікай колькасцю мускатнага арэха.

Да гэтага супа ў талеркі можна пакласці скрылікі лімона, а таксама фігурна нарэзаныя (у выглядзе зорачак, паўкружкоў і г.д.) карэнне пятрушкі і сельдэрэй. Да супу таксама можна падаць пампушкі з дражджавога цеста або грэнкі, абсыпаныя галандскім сырам. Грэнкі робяцца так: белы хлеб нарэзаць невялічкімі кубікамі, у місцы або гаршку ўзбіць відэльцам ці венчыкам адно яйка, дадаць трохі малака, зноў узбіць, усыпаць у міску нарэзаныя кубікамі грэнкі, добра перамяшаць, выняць, раскласці на бляху, абсыпаць галандскім сырам, запячы ў духоўцы да румянага колеру. Грэнкі падаюць на стол асобна або засыпаюць у супніцу.



З кулінарнага слоўніка

***Андруты** — вафлі ў форме трубачак.*

***Бешамель** — соус з масла, мукі, малака або вяршкоў і жаўткоў.*

***Мельшпэйз** — старадаўняя дэсертная страва кшталту суфле. Гатуецца з мукі, малака, яек і дадаткаў.*

***Соус шадо** — пенны соус з жаўткоў, узбітых з віном і цукрам. Выкарыстоўваецца для дэсертаў.*

***Каплун** — спецыяльна адкормлены на мяса кастрыраваны певень.*

### Суп шэры выдатны

*1,25—1,5 кг ялавічыны, 2 цыбуліны, 3 морквіны, 1 корань пятрушкі, 1 парэй, 0,5 караняплода сельдэрэю, 200 г масла, 0,5 шклянкі пшанічнай мукі, 1 качан капусты, жменя бульбы.*

Ялавічыну прыгатаваць звычайным спосабам; парэзаць на кубікі парэй, сельдэрэй, пятрушку, моркву, бульбу і цыбулю, усыпаць у каструлю, дадаць 100 г свежага масла, даліць трошкі насычанага тлустага булёну, даць гародніне падсмажыцца да мяккасці. Пасля таго як гародніна падсмажыцца, дадаць пшанічную муку, зноў падсмажыць усё на агні, развесці булёнам, давесці да кіпення, памешваючы. Калі закіпіць — працадзіць праз густое сіта. Гарнірам да гэтага супу служыць белакачанная капуста, звараная качаном да мяккасці і разрэзаная на чатыры часткі, прысоленая на смак. Смак супу залежыць ад мяса і ад гародніны, якая дадаецца. Пры прыгатаванні трэба звяртаць увагу, каб суп не быў занадта густы ці занадта рэдкі.

### Суп лімонны

*1,25—1,5 кг мяса, соль, 2 морквіны, 0,5 караняплода сельдэрэю, 0,5—1 лімон, 1,5 шклянкі смятаны, 1 корань пятрушкі, 1 парэй, 200 г рысу, 4 жаўткі.*

Зварыць булён, як звычайна, з ялавічынай і наборам карэнняў. Потым узяць смятану, пакласці чатыры жаўткі, узбіць разам са смятанай, дадаць лімонны сок або нарэзаны кольцамі лімон, развесці булёнам. У гэты суп засыпаюць рысавыя крупы.

### Клубень італьянскі (тапінамбур)

*Тапінамбур, соль, масла, сухарыкі або соус шадо.*

Абабраць караняплоды, вымыць, зварыць у падсоленай вадзе, адцадзіць і перад падачай заліць маслам з падрумяненымі ў ім сухарыкамі або соусам шадо.

Як правільна гатаваць соусы?

*Заўвага пра падсмажванне мукі для соусаў*

Для таго каб соусы былі празрыстыя і мелі адпаведны колер, пры іх прыгатаванні трэба звяртаць увагу на падсмажванне (яшчэ кажуць — падрумяньванне) мукі ў масле. Масла трэба растапіць і нагрэць у каструльцы. У растопленае масла кладуць патроху муку, пастаянна ўзбіваючы сумесь лыжкай, і падсмажваюць да ўтварэння аднароднай масы. Пасля гэтага здымаюць сумесь з агню, разводзяць булёнам, ставяць на невялікі агонь і ўзбіваюць калатоўкай да празрыстаці.

Для цёмнага (чырвонага, румянага або залацістага) соусу масла трэба падсмажыць мацней, для светлага — меней, для белага — толькі растапіць масла і заправіць мукой.

### Смажаніна з каплуна

*1 каплун, соль, 1 ст.лыжка масла, 1—2 сухарыкі.*

Падрыхтаваць каплуна, пасаліць, завярнуць у паперу і пячы на ражне або на блясе, паліваючы маслам. Калі будзе гатовы, абсыпаць цёртымі сухарыкамі і абліць маслам, якое сцякло падчас запякання.

### Заяц печаны са смятанай

*1 заяц, 100 г сала, соль, 1 ст. лыжка масла, 1 шклянка смятаны, 0,5 лімона.*

Нашпігаваць салам ачышчаную тушку зайца, пасаліць, пакласці на бляху і пячы, абклаўшы кавалкамі масла. Калі спячэцца напалову, паліць смятанай і ў ёй дапячы. Тады парэзаць на кавалкі і заліць соусам.

Перад дапяканнем і заліццём соусам можна абкласці зайца лімонам, нарэзаным кружочкамі.

### Торт яблычны

*15 яблыкаў, 1—2 ст. лыжкі масла, 0,5 шклянкі віна, 2 жмені разынак, лімонная скурка, 5—8 ст. лыжак цукру, карыца. Да гэтага слоенае цеста.*

З вінных яблыкаў ababраць скурку, выняць сярэдзінкі, дробна пашаткаваць і патушыць у распушчаным масле; уліць паўшклянкі віна, усыпаць трохі прамытых дробных разынак, крыху пашаткаванай лімоннай скуркі, некалькі лыжак цукру, крыху карыцы і варыць да густаты, увесь час памешваючы; калі гушча астыне, накласці яе слоем на круг спечанага слоенага цеста, накрыць сырым кругам з цеста, пашмараваць яйкам і паставіць у печ.

***P.S. Набыць беларускую кулінарную энцыклапедыю можна ў кнігарнях — яна ёсць у продажы. Дарэчы, тыраж кнігі — 1500 экзэмпляраў.***

# Дзевяноста першы

## Дні, якія стварылі краіну

*(Працяг. Пачатак на 7-й стар.)*

Словы Пазьняка сапраўды былі для камуністаў вельмі нечаканымі, як нечаканым, шакавальным была і форма звароту (“мы”, “нам”) ад чалавека, які некалькі гадзін таму заявіў, што не хоча ў гэтай зале дыхаць адным паветрам з тымі, хто падтрымаў хунту.

Пасля Пазьняка слова адразу ўзяў нефармальны лідар камуністаў ***Міхаіл Мачуленка*** (да прыпынення дзейнасці КПБ-КПСС — другі сакратар Гомельскага абкама КПБ): “Я стопрацэнтна падтрымліваю народнага дэпутата Пазьняка і прапаную тут жа, зараз жа прагаласаваць за тое, што ён сказаў. (*Воплескі.*)”.

Дзмітрый Булахаў папярэджвае, што “мы парушаем Канстытуцыю рэспублікі”, але ля мікрафона — ***старшыня Віцебскага аблвыканкама Уладзімір Кулакоў***: “Я прасіў бы таксама падтрымаць пытанне, каб мы прынялі гэтае рашэнне, таму што сапраўды становішча ў эканоміцы сёння такое, што, калі нам цяпер не абараніць эканамічна і палітычна рэспубліку, будзе хаос, і рэспубліка пойдзе да эканамічнага краху. Таму трэба падтрымаць”.

***Прэм’ер-міністр Вячаслаў Кебіч:*** “Я толькі што меў размову з вельмі высокапастаўленымі кіраўнікамі Расіі. І мушу заклікаць вас пасля гэтай размовы менавіта прыняць такі закон, таму што абстаноўка падпісання саюзнай дамовы вельмі змянілася. Наўрад ці такое падпісанне ў найбліжэйшым часе ўвогуле адбудзецца. Таму я таксама заклікаю вас знайсці такую форму, каб нам не парушаць Канстытуцыю. Але такі закон трэба сёння прыняць. (*Воплескі.*)”.

***Міхаіл Жэбрак, былы першы сакратар Ваўкавыскага райкама кампартыі:*** “Я да ўчарашняга дня стаяў за абноўлены Саюзны дагавор. Але пасля ўчарашняга дня тое, што адбылося ва Украіне, мяне прымушае зрабіць заяву пра тое, што калі мы сёння не прымем такі закон, тое, што прапануе Зянон Станіслававіч Пазьняк, дык трэба тады прымаць рашэнне аб уваходзе Заходняга краю ў склад Расійскай Федэрацыі. Іншага выйсця няма. І Беларусь не будзе існаваць, таму што тады Беларусі абсалютна не будзе. Я ў гэтым перакананы і прашу падтрымаць і прыняць такі закон. Давайце ставіць на галасаванне”.

Ідзе галасаванне, паэтапна: за прыняцце “за аснову” (“за” — 249 галасоў), за ўдакладненне назвы (“Аб наданні статусу канстытуцыйнага закона Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР” (“за” — 252 галасы), закон прымаецца ў першым чытанні (“за” — 253). З кожным разам колькасць прыхільнікаў павялічваецца. Затым галасуюцца некаторыя асобныя пункты і нарэшце — закон цалкам. “За” — 256 дэпутатаў. Супраць — 0, устрымаліся — 0.

На гадзінніку — 20.12.

Станіслаў Шушкевіч віншуе жыхароў Беларусі.

Далей прымаем неабходныя змены ў 72-і артыкул Канстытуцыі і прапанову Саўміна аб перадачы ў падпарадкаванне Беларусі органаў пракуратуры, МУС, КДБ і ўсёй маёмасці, якая знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі.

У гэты вечар Беларусь робіцца незалежнай дзяржавай.

Перамога!!!

Мы выйшлі на плошчу да тысяч людзей, якія віталі нас воплескамі. Пазьняк узняўся на імправізаваную трыбуну — грузавік з гукаўзмацняльнай апаратурай. На жаль, у аўдыёзапісе, які ў мяне ёсць, няма пачатку выступу — там лідар БНФ папярэдзіў, што не варта недаацэньваць тых, хто яшчэ некалькі дзён таму падтрымаў праімперскі путч:

“Яны звядуць да таго, што ўсе гэтыя заваёвы не будуць выконвацца. Таму трэба іх прымушаць. І гэта — толькі першы крок. Толькі першы крок, але наступны крок, якім мы выйдзем, — гэта з узнятымі сцягамі аптымістычна, з песнямі, з патрабаваннямі, на законнай аснове, не баючыся, нікога не зневажаючы, а як свабодныя людзі, спраўджваючы тое, што дасягнуў наш Вярхоўны Савет супраць КПБ, якая яшчэ існуе і многа можа нарабіць шкоды. Мы зараз законна будзем змагацца з гэтай гідрай, і ў гэтым сэнсе вельмі важна нам гэта зразумець.

Калі такая падтрымка будзе, то я ўпэўнены: Беларусь будзе і свабоднай, і незалежнай, і некамуністычнай. І — дэмакратычнай. І вельмі заможнай. І вельмі хутка. Вельмі хутка! Калі мы толькі пяройдзем да рэформаў, калі мы вырашым пытанні з зямлёй, з уласнасцю, з усімі нашымі сродкамі — вельмі хутка будзе вынік. Вельмі хутка будзе вынік! Ёсць разлікі, элементарна мы тады праз год адчуем паляпшэнне.

Праз тры гады мы ўжо будзем добра стаяць на нагах. А разлікі ўсе паказваюць — пры добрай хадзе спраў за восем гадоў мы можам стаць на ўзровень Фінляндыі, на ўзровень дастаткова заможнай еўрапейскай краіны. Гэта пры ідэальным варыянце. Чым меншая краіна, тым хутчэй ідзе абарачэнне. Скажам, для Украіны такі разлік — 15—25 гадоў. Для Савецкага Саюза, калі б ён пачаў тыя рэформы, — 50 гадоў, таму што краіна велізарная... У нас Беларусь — 10 мільёнаў, кампактная тэрыторыя, найвыдатнейшае геапалітычнае становішча, найвыдатнейшае. Усе шляхі, і паветраныя, — усе ідуць праз нас.

Атрымаўшы незалежнасць, мы можам выкарыстоўваць гэта вельмі эфектыўна, калі мы выкарыстаем і нашу электроніку, нашы розумы, нашы мазгі, калі мы будзем любіць нашу Бацькаўшчыну моцна, то ў нас ёсць усе магчымасці стаць свабодным, шчаслівым, заможным народам. І нас будуць паважаць, шанаваць. І тады жыццё наша будзе радасным. А жыць добра — гэта самая найвялікшая каштоўнасць. Проста мы даўно не жылі, мы не жылі яшчэ пры свабодзе. Мы яшчэ добра не ўсведамляем, што гэта такое. І вось — пачынаецца раніца. Дык давайце ж памятаць аб тым, што ад нас будзе залежаць, як будзе доўжыцца наш светлы дзень! Жыве Беларусь!”

А потым Пётра Садоўскі падняўся на грузавік і заспяваў купалаўскія “Тры дарожанькі...” — заспяваў так, што голас разлёгся далёка за плошчай. І толькі тыя, хто стаяў побач, бачылі ў яго на вачах слёзы...

*(Працяг будзе.)*



**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
**Прыёмная:** тэл. (017) 3286871.
**Тэл./факс рэкламнага аддзела:** (017) 3286904, 3286906
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

ISSN 2071-9647

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 9.09.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26550 экз. Заказ №.3850.**